

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkaušćyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
Цана паза Нямеччынай: ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 51–52 (281–282) Каталіцкія Каляды 1955 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 9

# *Вясёлых Каляд і шчасьлівага Новага Году!*

## *Хвала Богу на вышынях!*

Сьвятое Пісьмо Старога Запавету расказвае, што людзкасьць чакала на прыход Хрыста амель чатыры тысячы гадоў, што й сымбалізуецца ў каталіцкім касьцеле чатырмя тыднямі Адвэнту. Пра прыход на зямлю Божага Сына пісалася ў шмат мясцох Сьвятога Пісьма. Гэтак у прарока Ізаяша ў 9 разьдзеле так чытаем: «...Народ, які хадзіў у цемры, убачыў сьветласьць вялікую. Жыхаром тым, якія знаходзіліся ў сьмяротнай цемры, сьветласьць засьвяцілася». У 2-ім псальме так кажа прарок Давід: «Сказаў Госпад да мяне: сын мой ёсьць Ты, я сяньня парадзіў Цябе». Сьвяты прарок Давід у 95 псальме так заклікае: «Сьпявайце Госпаду песьню новую, хай сьпявае яму ўся зямля».

І вось-жа гэтую новую песьню засьпявалі над Бэтлеемам ня людзі, а ангелы ў сьвятую каляднюю ноч: «Слава Богу на вышынях, а на зямлі супакой сярод людзей добрае волі». І ад таго часу аж да сяньня яна сьпяваецца найурачысьцей у каляднюю ноч. І так, слава, вялікая слава Богу за тое, што прыйшоў да нас з намі дзяліць долю й нядолю, зыйшоў зь неба на зямлю, каб нас паднесьці да неба. І так, супакой на зямлі для людзей добрае волі. Для людзей, якія чакалі на Езуса, як тыя пастушкі, каб яму прынесьці ў падарку тое, што хто меў, або як тры каралі з Усходу, што яму прынесьлі золата, ладан і сьмірну ды кадзіла, — а ўсе яны падаравалі сваё сэрца Яму.

На правялікі жаль, ня ўсе людзі прынялі Езуса так, як пастушкі або тры каралі. Пра гэта сказана ў сьвятой Эванэлі паводля сьв. Яна ў І разьдз. ст. 9: «Было сьвятло праўдзівае, якое прасьвячае ўсякага чалавека, які прыходзіць на гэты сьвет. Было Яно на сьвеце, і сьвет празь Яго стаўся, і сьвет Яго не пазнаў. Да сваіх прыйшло, і свае яго ня прынялі. А тым, што прынялі Яго, веруючым у імя Яго, дало Яно сілу дзяцьмі Божымі стацца, тым, якія вераць у імя Яго...»

Але і было шмат людзей, да якіх калядныя словы «Слава Богу на вышынях і на зямлі супакой людзям добрае волі» ня маюць ніякай вышэйшай вартасьці. Так ёсьць цяпер, гэтак было і ў часе нараджэньня Божага Сына. Цар Гэрад юдэйскі так казаў да трох каралёў з Усходу: «Пайдзеце, добра разьведайце пра Дзіцятка і, калі знойдзеце, паведаміце мяне, каб і мне пайсьці й пакланіцца Яму». (Паводля Мацьвея, 2—8). Мы добра ведаем, як пазьней цар Гэрад пакланіўся Езусу. Страшны гэта быў паклон.

Можа хтось скажа, што гэта было вельмі даўно, калі яшчэ Палестына была пад панаваньнем паганскіх Рымлянаў. Але калі мы сяньня прыгледзімся да нашага г. зв. культурнага XX стагодзьдзя, дык што-ж пабачым? Падабенства вельмі шмат з тэй можа толькі розьніцай, што сяньня не адзін Гэрад, а іх шмат. І ў гэтым вялікая трагэдыя нашага веку, што вышэй прыведзеныя калядніія словы не прамаўляюць да шмат каго з нас.

✶

Сьвяты калядні вечар! Колькі ён з сабой нясе ўспамінаў. Жыва перад намі паўстаюць хвіліны дзіцячых гадоў зь іхнымі лятуценьнямі й шчасьцем. Вялікая нашая беларуская калядная традыцыя. Стол накрыты чыстым белым настольнікам, абавязкава з пахучым сенам пад ім. Усе дзеляцца традыцыйным аплаткам, слухаюць каляднія песьні-калядкі, у якіх пяецца амаль пра ўсю гісторыю Божага Нараджэньня.

Беларусь — шматпакутная Бацькаўшчына. Край пісьменьнікаў і паэтаў. Ты адрадзілася, калі тысяча гадоў таму засьвяцілася над Табой сонца Хрыстовай навукі... Ты была шчасьлівай, бо й над Табой сьвятыя ангелы сьпявалі каляднюю песьню. Але супакой Твой ня трываў доўга, бо супраць Цябе паўстаў Гэрад і расьцягнуў над усім краем панаваньне цемры. Пра гэты час наш вялікі паэта Янка Купала гэтак пісаў:

> Сотні лет, няпрыяцелем-братам прыбітая,
> Зарастаючы зельлем чужым, як лазой, сенажаць,
> Ты ляжала няпамяці пылам пакрытая,
> А народ твой быў змушан маўчаць і табой пагарджаць.

Але калі Ты прачнулася, пачуўшы голас ангелаў, ізноў паўставаў супраць Цябе Гэрад. Ён і сяньня над Табою нялюдзка зьдзекуецца. Ёсьць вялікая аналёгія між гісторыяй нараджэньня Хрыста ў Бэтлееме зь гісторыяй Беларусі. Але калі нас перасьледуюць, дык трэба заўсёды памятаваць, што перш за ўсіх перасьледвалі Хрыста, а ангелы сьпявалі гэную нябесную песьню якраз [illegible] найбольш перасьледвалі — для Езуса, для пастушкоў, і для бедных людзей .І для нашай шматпакутнай Беларусі сьвятыя ангелы кажнага году сьпяваюць «Слава Богу на вышынях, а на зямлі супакой...», бо яна перасьледваецца за Хрыста, за крыж, за сьвятую веру народу. Хрыстос адноўчы сказаў: «Ня сумуйце, калі мяне перасьледуюць і калі вас перасьледваць будуць. Перамога на маім баку. Да ўваскрасеньня дарога вядзе праз крыж».

## Адраджэнскае значэньне Каляд

Каляды! Колькі глыбокага зьместу й захопна-парываючыга ўспамінанага чару ў гэным дарагім кажнаму з нас слове! Запраўды, ні адно сьвята на Беларусі не авеена, дзеля асаблівай яго важнасьці, гэткай багатай і чароўнай прачула-містычнай паэзіяй ды звычаямі: беленькая каляда-аплатак, куцьця — сена — снапок на покуці, сьвятая вігілійная вячэра зь песьнямі-калядкамі, шчадроўнікі з «зьвяздою», казою ды віншавальнай папулярнай гумарыстыкай — каму-ж ня сьняцца сяньня з нас!. Дый ня толькі на Беларусі — ўсе хрысьціянскія, а ў пэўным сэнсе й нехрысьціянскія, народы прыдаюць капітальнае значэньне культываванаму ў іх факту. На тое іменна спэцыяльнае значэньне, дагэтуль здаецца ў нашай прэсе не падчырківанае, і хочам тут зьвярнуць глыбейшую ўвагу.

Падзея Хрыстовых Народзін, Хрысьціянскіх Каляд, стаіць у цэнтры, у васяродку як сусьветнай гісторыі, так і гісторыі адраджэньня кажнага народу, кажнага грамадзтва. Яна мае ня толькі вялікае значэньне рэлігійна-містычнае для паасобных душ, як тайніца сьвятое веры, але й як гістарычны факт, што здарыўся ў Бэтлееме перад тысячу дзевяцьсот пяцюдзесяцю гадамі; мае такжа пераламовае гістарычнае значэньне для ўсяго людзтва. У гісторыі бо людзтва Хрыстовыя Народзіны становяць гранічную падзею, да якое павольным шляхам з прароцка-прачувальнай тугою ў душы йшлі мінулыя пакаленьні й эпохі. Пасьля вялікіх гэрояў, увекавечненых у мармуры й граніце, нараз, у прыдарожнай стайні зьяўляецца малое напагляд кволае Дзіцятка й сваёю дробнаю ручанькаю пачынае накрэсьліваць гістарычныя шляхі чалавецтву. Нованароджаны Езус-Збавіцель — гэта Матор гісторыі народаў, гэта асяродны пункт і цэнтральная Асоба ўсіх гістарычных працэсаў. Ён падзяліў гісторыю на эры, так што цяпер фактычна маем дзьве толькі эры: да-Хрыстовую й па-Хрыстовую.

Сьв. Аўгустын у сваім творы «Аб Гаспадарсьцьве Божым» называе малога Езуса тварцом новае эры. А. Гэргенрётэр, Гэфэле, Ропс ды іншыя цьвярдзяць, што поўная гісторыя павінна прадстаўляць падзел ня толькі ў іхняй прычыновай сувязі, але такжа даразумявацца ў гістарычных выпадках і Божай Думкі, прамудрых плянаў Божых. Уся гісторыя на думку гэтых мысьліцеляў — гэта ня што іншае, як толькі сырая канва, на якой Бог снуе свае прамудрыя пляны. А ў тых плянах Уцелаўленьне й Народзіны Божага Сына былі найважнейшай гістарычнай падзеяй, Хрыстус-жа найважнейшай гістарычнай Асобай.

Няма сумлеву, што мы жывём у эпоцы т. зв. гістарызму, знача пабуджанага нейкага глыбейшага заінтэрасаваньня гісторыяй, гістарычнымі падзеямі і працэсамі. Гістарычныя пытаньні займаюць мабыць найважнейшае месца ў думках Эўропы дваццатага стагодзьдзя. Людзей, жывучых між двумя апошнімі войнамі, болей хвалюе гістарычная доля людзкога роду, чым якія матэматычна-прыродніцкія тэорыі, а навет болей, чым найважнейшыя вынаходы. У эпоцы атамнае бомбы ды іншых вынаходаў тыя эпохальныя адкрыцьці ня робяць такога ўражаньня, як новае адкрыцьцё поўначалавека зь ягонай гістарычнай доляй і мэтай. І гісторыю людзтва трэ’ было-б прызнаць безьзьмястоўнаю, бязмэтнаю, а навет трагічнаю, калі-б мы шукалі ейнага зьместу й мэты ў межах самога толькі туземнага існаваньня людзей. Няпоўнасьць, незакончанасьць, ды трагізм зьнікаюць у сьвятле надземнага існаваньня. Туземная гісторыя людзкога роду — гэта ня прыпадковы бязмэтны бег, гэта ня йгра стыхіяў ці хаотычны кругаварот, але — далейшае разьвіцьцё таго, што зачалося перад зьяўленьнем на зямлі людзей у нябеснай гісторыі, яно знойдзе сваю разьвязку ў другім пазазямным жыцьці. А выявам найбольшага сэнсу туземнае гісторыі для хрысьціяніна якга й ёсьць Уцелаўленьне й Народзіны Божага Сына, якія сталіся, дзеля свае ключовае важнасьці, зьместам нашых стараветных Каляд. Прыйшлі тыя Народзіны таму, каб нас адрадзіць. Сын Божы стаўся ўбогім, каб нас Божымі цэннасьцямі ўзбагаціць. Ён стаўся «Сынам Чалавечым», каб усіх людзей зь Ім збратаных, зрабіць дзяць-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)



*Катэдра ў Вільні зімою* (Із збору д-ра Гоція)

## Народны абрад Калядаў

У сівой мінуўшыні, калі нашыя продкі пакланяліся магутным сілам прыроды, верылі ў паганскіх багоў, Калядамі — старавечным сьвятлом новага сонечнага году — пачынаўся каляндарна-сэзонны год. Сонца ўступала ў знак Казярога, «паварачвала» зіму на лета, Дажбог (бог сонца) паказваў перамогу сьвятла над цемраю.

Слова Каляда вучоныя тлумачаць па-рознаму: адны назовам паганскага бога, другія ўплывамі антычных грэка-рымскіх Календаў, як там называліся сьвяты новага году. На Беларусі ёсьць прыгожая казка-легенда, паводля якой Калядою звалася дачка бога навальніцаў і грымотаў Пяруна. Багіня Каляда ў каляндую ноч, быццам, упала зь неба, ператварылася ў белую козачку і, ходзячы па сьвеце, вызваляла людзей ад цемры зімовага бога Зюзі. Так ці інакш, Каляды ў старадаўнасьці мелі вялікае значэньне, сымбалічна зьвязанае з сонцам, сьвятлом, цяплом, нараджэньнем жыцьця, радасьцю перамогі. Для старавечнага Беларуса-земляроба, усё існаваньне якога залежала ад плоднасьці палёў, прыход сонечнага году — Калядаў рабіўся найгалаўнейшаю і істотнаю парою, а знак Казярога, які прыймала ў гэты час сонца, набываў магічнае значэньне. Каза, казёл, мехавая скура, казьліная маска — ўсё гэта сталася сымбалем плоднасьці, багацьця, тымі духамі, якіх трэба заклікаць, у якіх трэба прасіць сабе дабрабыту. Яшчэ і да нашых часоў папулярныя звычаі хадзіць на Каляды з «казою» (хлапец, апрануты ў казьліную скуру і казьліную маску), рабіць зь ёю магічна-заклікальныя чыны, дзеля таго, што:

> Дзе каза ходзіць,
> Там жыта родзіць!

Гэтакую-ж магічна-заклікальную функцыю набыў і звычай ладзіць куць-

(Заканчэньне на 5-ай бачыне)

# Другія адведзіны Я. Э. Кардынала Тысэрана беларускіх студэнтаў у Лювэне

За няпоўныя чатыры гады Дом беларускіх студэнтаў Лювэнскага Ўнівэрсытэту меў гонар прыняць другі раз у свае муры ягонага заснавальніка й вялікага дабрадзейніка Яго Эмінэнцыю Кардынала Тысэрана, Дэкана Сьвяшчэннага Калежу Кардыналаў і Сакратара Сьвяшчэннае Кангрэгацыі для Ўсходняе Царквы, а таксама Ганаровага Старшыню «Акадэмікус» (Асацыяцыя Дыплямаваных Беларусаў Лювэнскага Унівэрсытэту).

Яго Эмінэнцыя, як ведама, у першы раз прыяжджаў, у Дзень 25-га Сакавіка 1952 году, спэцыяльна для высьвячэньня й адкрыцьця новага думу. У свой час наша прэса падкрэсьліла гэта, зьмяшчаючы абшырны рапартаж зь ілюстрацыямі цэрэмоніі. Гэтым разам Яго Эмінэнцыя прыяжджаў у Лювэн для ўрачыстага атрыманьня, пад час акадэмічнага сэансу, двух вялікіх томаў Ягоных «Opera minora», зборніка рознастайных меншых працаў і аглядных артыкулаў, выданых у Лювэне Інтэрнацыянальным Цэнтрам Агульнае Дыялекталёгіі з нагоды 25-ых угодкаў Ягонае прамоцыі на функцыю віцэ-прафэкта Ватыканскае Бібліятэкі.

Вышэйўспомнены Акадэмічны Сэанс адбыўся 28-га лістапада ў Вялікай Залі Прамоцыяў Лювэнскага Ўнівэрсытэту, на якім прысутнічалі шматлікія прадстаўнікі ўнівэрсытэцкіх і агульна-бэльгійскіх установаў. На заўтра, 29-га лістапада ў вабед, Яго Эмінэнцыя Кардынал Тысэран зложыў візыту ў Доме беларускіх студэнтаў. Пры ўваходзе ў Дом Яго Эмінэнцыя быў прыняты хлебам і сольлю, традыцыйны сымбаль гасьціннасьці, старшынёй Камітэту Кардынала Тысэрана прафэсарам Дэнісам, сакратаром гэтага-ж Камітэту Дом Робэртам ван Каўвэлярт дэ Ўільс і двума нашымі студэнтамі.

У залі першае слова узяў старшыня Камітэту Дапамогі Беларускім Студэнтам праф. Дэніс, які, накрэсьліваючы гісторыю паўстаньня й разьвіцьця Лювэнскае Беларускае Групы Студэнтаў, дзякуючы актыўнай дапамозе Яго Эмінэнцыі Кардынала Тысэрана, зьвярнуў асаблівую ўвагу на вынікі студыяў і культурна-грамадзкую працу студэнтаў для свае Бацькаўшчыны. У канцы ён вынес пажаданьне студэнтам хуткага павароту ў Вольную Беларусь і шчырае дзякуй усім дабрадзейнікам Групы, асабліва Яго Эмінэнцыі Кардыналу Тысэрану і айцу Робарту, як ён акрэсьліў, душы Групы. Потым прывітаў Яго Эмінэнцыю ам імя «Акадэмікус» ягоны старшыня магістар хіміі Арэшка. Падзякаваўшы Яго Эмінэнцыі за патранаж над Асацыяцай, ён падчыркнуў, што Асацыяцыя налічвае ў сучасны мамэнт 25 сяброў, зь якіх 6 доктараў мэдыцыны, 1 доктар геалёгіі, 1 інжынер хіміі, 2 аптэкаркі, 7 магістраў палітычных і сацыяльных навукаў, 2 магістры хіміі, 2 магістры гістарычных навукаў, 1 магістар эканоміі, 1 магістар пэдагогіі, 1 магістар псіхалёгіі, 1 градуэ (з навуковай ступеняй) аграноміі і 1 лярбарантка. 12 зь іх працуюць у іншых краінах вольнага сьвету і 13 знаходзяцца ў Бэльгіі. З гэткіх апошніх тры працуюць асыстэнтамі мэдыцыны, адна аптэкаркай і адзін прафэсарам хіміі пры гэтым-жа Ўнівэрсытэце. «Мэтай сяброў нашае Асацыяцыі, — зазначыў сп. Арэшка, — ня ёсьць уладжаньне толькі свайго асабістага жыцьця, але ў васнаўным і галоўна, згодна Вашых слоў, Ваша Эмінэнцыя, заставацца верным рэлігійнаму, інтэлектуальнаму й сацыяльнаму ідэялам, якія нас лучаць тут на службе нашым суродзічам-выгнанцам і нашае Бацькаўшчыны наагул».

Паміж дастойнымі гасьцямі былі Яго Эксцэленцыя ван Уаенбэрг, рэктар Лювэнскага Ўнівэрсытэту; Яго Эксцэленцыя Япіскап Слонсканс, калішні Апостальскі Адміністратар Менску й Магілёва; Яго Эксцэленцыя Прэзыдэнт БНР, інж. М. Абрамчык; Архімандрыт Альдзінучы; Мсньсэнёр дэ Раймакэр; Канонік Філіпэ; прафэсары: дэ Каўкер, дэ Монпэльe, Грэгуар, ван Каўтэрэн, Лёйкс, Торо, Уатрэн і шмат іншых. Перад гэтымі дастойнымі гасьцямі ў Доме беларускіх студэнтаў Яго Эмінэнцыя Кардынал Тысэран скромна адказаў на прывітальныя словы праф. Дэніс і сп. Арэшкі. Выражаючы сваю радасьць знайсьціся зноў сярод групы беларускіх студэнтаў, Ён павіншаваў іх за іхнюю працу, за адданасьць Бацькаўшчыне і свайму народу, за захаваньне сваіх традыцыяў. Ён іх заахочваў настойліва трымацца накрэсьленых ідэялаў і закончыў гарачым пажаданьнем для іхнае будучыні і будучыні Беларусі, Беларусі вольнай і незалежнай, адданай сваім пачаткам і сваей хрысьціянскай гісторыі.

Прыняцьце было вельмі шчырае: гэта было беларуска-бэльгійскае братаньне, якое яшчэ адзін раз паказала вялікую пашану й сымпатыю ўнівэрсытэцкага й цывільнага асяродзьдзя да працы Кардынала Тысэрана беларускім студэнтам і беларускай справе.

На заўтра бэльгійская прэса («Гет Фолк», «Ля Лібр Бэльжык», «Ля Нас'ён Бэльж»), пасьвяціла абшырныя артыкулы візыце Кардынала Тысэрана ў Доме беларускіх студэнтаў.

**Прысутны**



**Я. Э. Кардынал Тысэран у Доме беларускіх студэнтаў у Лювэне. Студэнт Ул. Бутрымовіч вітае дастойнага Гасьця з хлебам і сольлю. Пасярэдзіне Старшыня Камітэту дапамогі беларускім студэнтам імя Кардынала Тысэрана праф. Дэніс.**

# Адзін цешыцца, а тысячы плачуць

Ужо ўвайшло ў звычай, што перад рознымі камуністычнымі сьвятамі кіраўнікі ўстановаў выхваляюцца ў прэсе рознымі дасягненьнямі. Зь ліку такіх артыкулаў зьвяртае на сябе ўвагу самахвальства сакратара Давід-Гарадоцкага райкому партыі Мацюшэўскага. Самахвальствы гэтыя носяць назву «Радасныя вынікі» і зьмешчаны ў «Советской Белоруссии» на пярэдадні сьвята кастрычніцкай рэвалюцыі.

Надзвычайная радасьць перапоўніла Мацюшэўскага з тэй прычыны, што калгасы раёну здалі дзяржаве на 150 тонаў льнянога семя больш, чым у мінулым годзе. Таксама здана дзяржаве ня менш 700 тонаў лёну. Мацюшэўскі запэўняе, што настойлівай працай, гэта значыць усебаковым націскам, да сярэдзіны сьнежня ўся вырашчаная ў гэтым годзе лёнапрадукцыя будзе поўнасьцю адпраўлена ў дзяржаўныя склады.

Зь вялікім захапленьнем і ўцехаю сакратар райкому паведамляе, што пад яго партыйным кіраўніцтвам Давід-Гарадоцкі раён выканаў плян малаканарыхтовак аж на 127%! Зьверх пляну здадзена таксама 71 тона мяса. Аднак Мацюшэўскі лічыць найбольш бліскучай перамогай у раёне збожжанарыхтоўкі. Такіх пераможнікаў, як Мацюшэўскі, трудна знайсьці ў усей Беларусі. Збожжанарыхтоўкі ў раёне выкананыя на 167%. Па нарыхтоўках бульбы, хоць і невялікае перавыкананьне, толькі на 6%, аднак сакратар райкому выхваляецца, што апрача сена і сілосу на кажную карову выдзелена па паўтары тоны бульбы.

Мацюшэўскі так захоплены надзвычайнымі посьпехамі, што ўжо цяпер запэўняе камуністычную партыю і савецкі лад, у наступным годзе павялічыць здачу малака, мяса, збожжа, бульбы ня менш, чым у паўтары разы.

Нашым суродзічам з Палесься добра вядомыя ўмовы жыцьця ў Давід-Гарадоцкім раёне. Раён знаходзіцца паміж Прыпяцьцю і Гарыньню, надзвычайна забалочаны зь пясчанаю глебаю. Насельніцтва раёну, каб пракарміцца, займалася пабочнымі заработкамі, асабліва сплавам лесу і суднабудаўніцтвам. Усё гэта ня перашкодзіла партыйнаму кіраўніцтву беднага раёну перавыконваць пляны здачы сельска-гаспадарскіх прадуктаў дзяржаве.

«Посьпехі» працы стварылі Мацюшэўскаму радасны перадсьвяточны настрой. Яго «заслугі» будуць адпаведна ацэнены ў Менску ў ЦК камуністычнай партыі і беларускім савецкім ударам. Аб яго «перамогах» будуць пісаць у газэтах, а на розных нарадах Мацюшэўскі будзе дзяліцца тымі мэтадамі «працы», якіх ён ужываў, каб забраць у дзяржаўны кацёл вынікі цяжкай працы калгасьнікаў, пакінуўшы іх на жабрацкім пайку. Напэўна Мацюшэўскі ўжо марыць аб атрыманьні ордэну, бо ён-жа ня просты сакратар райкому закінутага Давід-Гарадоцкага раёну, а і сябра Вярхоўнага савету СССР. Скора будзе сэсія, на якой славутны «пераможнік» палескіх калгасьнікаў будзе таксама выхваляцца сваімі «дасягненьнямі».

Цяпер варта пагаварыць і аб сьвяточных радасьцях тысячаў прыгонных калгасьнікаў, якія здабывалі цяжкай працай прадукты, а Мацюшэўскі здаваў іх дзяржаве і перавыконваў пляны. Клапатлівы Мацюшэўскі і аб калгасьніках не забыўся. У артыкуле ён самазадаволена адзначыў, што калгасныя сем'і жывуць заможна і ў дастатку. «Вось, піша ён, сельгасарцель „Бальшавік”. Тут калгасьнікі атрымліваюць на кажны выпрацаваны працадзень 1,5 кілягграма хлеба, тры кілягграмы бульбы, чатыры кілягграмы грубых кармоў дзеля асабістай жывёлы. Прыкладна такая-ж аплата працадзён і ў астатніх калгасах раёну», дадае Мацюшэўскі. Зразумелая рэч, што ніхто не паверыць, што ўсе калгасы атрымалі па паўтары кілягграмы хлеба і па тры кілягграмы бульбы ў цэлым раёне, Мацюшэўскі адзначыў калгас «Бальшавік», у якім найбольш высокая аплата працадзён, бо на іншыя калгасы ён нябось не паклікаўся. Ня будзем рабіць разьлікаў, ці можа калгасная сям'я, хоць-бы ў складзе пяці душ, у якой трое дзяцей, жыць «заможна і ў дастатку» пры кілягграмнай аплаце збожжам працадня. Адзіны мы можам зрабіць выснаў: сакратар камуністычнай партыі Давід-Гарадоцкага раёну Мацюшэўскі прыгоннае сялянства ў раёне пасадзіў на галодны паёк. Зьдзекам гучыць яго цьвярджаньне аб дабрабыце калгасьнікаў. Перавыконваючы пляны, Мацюшэўскі меў на ўвазе толькі сваю кар'еру, ён клапаціўся аб сабе. Перавыконваючы пляны, сакратар райкому гэтым зьмяньшаў аплату працадня, адбіраў кусок хлеба ад галодных дзяцей калгасьнікаў. Яго «праца» ў раёне нясе людзям сьлёзы і праклёны.

**В. Б.**

**НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАГА БЕЛАРУСА НА ЧУЖЫНЕ, ЯКІ-Б НЯ БЫЎ ПАДПІШЧЫКАМ, ЧЫТАЧОМ І ПАШЫРАЛЬНІКАМ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» І ЕЙНЫХ КНІЖНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ!**

# «Нью-Ерк Таймс» аб хвальшаваньні гісторыі Беларусі

Вялікая амэрыканская газэта «Нью Ёрк Таймс» зьмясьціла ў сваім нумары з 4 сьнежня (інтэрнацыянальнае выданьне, бач. 6) артыкул, крытыкуючы савецкія падручнікі гяісторыі. У артыкуле гаворыцца, што выкрыўліваньне гісторыі зьяўляецца сталай маскоўскай палітыкай, якая ахоплівае кожнае дзіцё ў Савецкім Саюзе. Цьверджаньне гэтае належыць Уільяму Бэнтону, быламу амэрыканскаму сэнатару, які зьяўляецца цяпер кіраўнікам і выдаўцом Брытанскае Энцыклапэдыі. Бэнтон быў таксама адным з арганізатараў Эдукацыйна-Навукова-Культурнае Арганізацыі (UNESCO) ў рамках Злучаных Нацыяў, да якое ад 1954 году належыць і СССР. Адным з заданьняў гэтае арганізацыі зьяўляецца барацьба супраць заганнае тэндэнцыі некаторых нацыянальнасьцяў фальсыфікаваць у сваіх школьных падручніках гісторыю іншых народаў. Нядаўна Гэнэральнаму Дырэктару гэтае арганізацыі д-ру Эвансу, пасьля свайго месячнага падарожжа па савецкім баку зялезнае заслоны, Уільям Бэнтон паслаў ліст. Да гэтага ліста быў далучаны пераклад часткі выдадзенага ў Маскве пад рэдакцыяй праф. Шастакова падручніка гісторыі для 4-е клясы.

Як адзін зь яркіх прыкладаў грубога фальсыфікаваньня гісторыі нерасейскіх народаў, Бэнтон падае месца з савецкага падручніка, дзе гаворыцца, што быццам-бы Беларусы, Украінцы, Латышы, Эстонцы і іншыя народы так званых сатэлітных краінаў «віталі сваіх савецкіх збаўцаў» і «выказалі жаданьне стацца часткамі Савецкага Саюзу».

Засьцярога слушная! Беларускі й іншыя паняволеныя народы ніколі ня выказвалі свайго жаданьня быць часткамі Савецкага Саюзу. Яны проста былі падбітыя сілай бальшавіцкага аружжа. Аб гэтым ведама кажнаму, хто знаёмы з аб'ектыўнай гісторыяй Усходняе Эўропы апошніх дзесяцігодзьдзяў. Аб гэтым штораз шырэй даведваецца ўвесь вольны сьвет. І гэта можа быць зарукай таго, што наш народ разам зь іншымі адваюе ўсё-ж сваё прыроднае права на свабоднае жыцьцё ды права друкаваць школьныя падручнікі з праўдзівымі гістарычнымі фактамі.

**А. Б.**

# Перавяршылі барона Мільгаўзэна

Што барон Мільгаўзэн дагэтуль лічыўся найбольшым брахуном, з нас ніхто ня сумляваўся. Пераглядаючы ягоныя анэкдоты і вычварныя штукі, паўставала пытаньне: ці знойдзецца хто колечы такі ў нашых днёх, хто-б мог яго перавяршыць?

Гэта пытаньне нас-бы яшчэ пэўна шмат часу турбувала-б, калі-б кагадзе не папалася нам у рукі кніжка з надзагалоўкам: «Інстытут Літаратуры і Мастацтва Акадэміі Навук БССР». «БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА», падручнік для VIII клясы сярэдняй школы, пад рэдакцыяй В. В. Барысенкі і М. Ц. Лынькова. Зацьверджаны Міністэрствам асьветы БССР, выданьне сёмае, выданае Дзяржаўным Вучэбна-Пэдагагічным Выдавецтвам БССР. Менск 1955», дзе на бачынах 21—22 ў артыкуле М. Г. Ларчанкі «Літаратура эпохі феадалізму» чытаем:

«Беларускія нацыяналістыя, у сваіх контррэвалюцыйных мэтах, скажаючы гістарычныя факты, адмаўляючы існаваньне клясаў і клясавае барацьбы сярод беларускага народу, стварылі легенду аб „залатым веку” Беларусі ў мінулым. Сутнасьць гэтай легенды заключаецца ў тым, што быццам-бы беларускі народ у пэрыяд XIV—XVI вякоў перажываў „залаты век” свае гісторыі, меў сваю дзяржаўнасьць, вольна мог тварыць сваю культуру і літаратуру.

Гістарычныя-ж факты гавораць аб тым, што ў пэрыяд XIV—XVI вякоў беларускі народ ня меў сваей дзяржаўнасьці, знаходзіўся пад страшэнным уціскам літоўскіх і польскіх паноў-прыгнятальнікаў і сваіх феадалаў, перажываў самы змрочны пэрыяд сваей гісторыі і бязумоўна ня мог вольна безь перашкод разьвіваць сваю культуру і літаратуру. Панаваньне ў Беларусі літоўскіх і польскіх феадалаў, пад пятой якіх знаходзіліся працоўныя масы беларускага народу, у значнай ступені затармазіла разьвіцьцё беларускай літаратуры, перашкодзіла ёй узьняцца да ўзроўні тагачаснай рускай культуры.

І калі ў няспрыяльных умовах жорстокага феадальнага і нацыянальнага ды рэлігійнага ўціску беларуская літаратура ня спыніла свайго разьвіцьця, то адной з паважных прычын гэтага было існаваньне вялікага рускага народу, яго перадавой культуры (ў трынаццатым стагодзьдзі!!!), пад плённым уплывам якой расла і разьвівалася беларуская літаратура феадальнай фармацыі».

Вышэй прыведзеныя цытаты вельмі яскрава гавораць, якой веды навучаюць у сяньняшняй «незалежнай беларускай дзяржаве» сучасныя Мільгаўзэны, залезшы пад шыльду Акадэміі Навук БССР. Таксама ня ёсьць сакрэтам, што з баронам Мільгаўзэнам ніхто і ніколі не спрачаўся ў праўдзівасьці ягоных сказаў, яны ўсімі прыймаліся за анэкдоты! Таму і мы тут ня станем наводзіць сваіх нацыянальных паглядаў, а толькі навядзём некалькі цытатаў зь «Літаратурнай Энцыкляпэдыі», выдадзенай Камуністычнай Акадэміяй, пад рэдакцыяй П. І. Лебедев-Полянского, А. В. Луначарскага, І. М. Нусінава, В. Ф. Переверзева, В. Ф. Флічэ і другіх,выдадзенай у 1929—1939 гадох у Маскве, дзе ў артыкуле «Беларуская Літаратура» ў першым томе на бачыне 410—411-й гаворыцца: «Найбольш выдатнымі прадстаўнікамі гэтай „залатой пары” (так, такі залатой!) у разьвіцьці старажытнага беларускага пісьменства зьяўляюцца Францішак Скарына, Васіль Цяпінскі, і Сымон Будны. Зь ім'ям Францішка Скарыны зьвязаныя і пачаткі друкарства на Беларусі. У 1517 годзе ім была надрукаваная ў Празе перакладзеная з чэскае мовы на беларускую «Біблія», а ў 1925 у Вільні быў выдадзены друкаваны «Апостал»; храналягічна беларуская друкаваная Біблія займаець такім спосабам трэйцяе места пасьля нямецкай (1455) і чэскай (1488) і ў гэтых адносінах Беларусь вельмі шмат (так, такі вельмі! — М. В.) перагнала Маскоўскую Русь, дзе першая друкаваная кніга паявілася толькі ў 1573 годзе».

Так «акадэмікі», барон Мільгаўзэн, у параўнаньні з вамі і з вашымі анэкдотамі астаўся нолям. Запішыце на свой лік яшчэ адну перамогу!

**Мікола Вярба**



*Зіма ў Беларусі*

# Літаратурны Дадатак

Адам Міцкевіч

## Да Нёмана

Нёман, родны мой Нёман! Празрыстай вадою
Ты абмываў мне калісьці малому далоні,
Плыў па табе я, пакінуўшы родныя гоні,
Ў землях далёкіх шукаць свайму сэрцу
спакою.

Бераг высокі, пакрыты расістай травою;
Тут Ляўра фіялкамі ўквечвала скроні,
Мілы вобраз яе ў тваім чыстым улоньні
Муціў я ня раз гарачай юнацкай сьлязою.

Нёман, рака мая! Дзе тыя даўнія хвалі?
Дзе тое шчасьце? Лепшыя нашы намеры?
Сьветласьць дзяцінства, поўная радаснай
веры?

Дзе ён, бурлівы парыў мой у сьветлыя далі?
Дзе вы, Ляўра, сябры? Не адчыняцца
дзьверы.
Ўсё прамінула, жыцьцё толькі сьлёз не
забрала.

Пераклаў з польскага
**Ю. Гаўрук**

Я. Юхнавец

## Новыя вершы

Ужо каторы дзень мы ў жалобе.
Адзіны час, што можа быць заўсёды ў
сэрцах нашых.
Ня усё забыўшы, што з намі аджыло
калісьці
дорым для сябе часіны свайго раю:

песьня моўкная — звыкласьць
прадчуваняў
па найменшаму што можна спадзявацца.

Але-ж дазнаўшыся, у жальбе сваёй,
увечары ці раніцай адыйдзем аж да тых
мясцін,
што ў далаве ляжаць, як між далонь зямных,
і снамі, здаэцца, вабіць шырынь зарэчную,
скуль шорсткай зеляняй увосень і ўзімку
віднеюцца лугі дый гоні незасеяныя,
мы млявасьцяй прыбраліся галоснай,
каб хоць бы толькі песьню нашу чулі,
і нас успомнілі: — Да хвалы сябе паслалі...

I мінула.
Што нам рабіць цяперака?
Хто нашую жальбу старэчую пачуе?
Мы штодня любуемся сабой,
бы летасьць, яно улетку.

— Ах, сьвет утаймаваны!
Зірні як дзеці мушляй цешуцца!
Была яна ў нетрах акіяну
і ўскросла быць
на ўзьбярэжжу...

— Кінь пра гэта.
Вялей хадзем, мой дружа,
зноў за келіхам сябе успомніць,
а пасьля суседкам па грашу падорым,
ім будзе міла.
— Хадзем, братаніч... Глядзі-ж не
адступіся
адзадзя цябе чарэіць лужа.
— Дзякую табе!.. Ах, як добра,
мы радасьці й сьвяты прыдумваем сабе!
Мне хочацца цяпер з сабой зьмірыцца, —
якім наканаваньем займецца сьвет бяз нас?..

— Ты праўду ня мінаеш, братаніч мой...
Але знарок дазнацца я жадаю;
чаму учора пра цябе цьвярдзілі:
— Ты навет і ня сьцень ад дрэва?

— Я дзякую табе. Як добра
што ты хваліў мяне прад імі,
і быў гатоў нясьці мяне, трымаць сьвятлом
паходні,
і кінуць усяго мяне на іх,
каб бачылі, як славаю рассыпецца
маё старое цела.

— Мы праўду выдумаем, братаніч мой,
мы выдумаем яе, братаніч даражоны.
Усяму адзін назоў прывучаны:
не памятай сваіх спадзеў,
і лікоўнасьці неспадзяваныя прычыны,
і замін: — Жыць я ня ўсьпеў.

☆

Абдымнасьцяй спадае бражовасьць захаду,
нібы даруецца табе вітаньне.
Паданьню верыцца, што ня весьціць
успомін убогага расстаньня.

☆

Утоены у гордасьцях маіх
час мізэрнасьцяў — здарыцца мусіць...
О, моц мая, у вобліках тварэньня
ты ўзвысіла і мой завіх!

Захопных зорнасьцяй узвышша царскага
ўзнесенага сваёй рукой,
сустракалі людзі сьветчаньнем прынуклівым
ветлівасьць даруючы і вечны супакой
сваім спамінам.

...У гордасьці сьцюдзёнай схаваўшы кажны
рану,
ад сноў крыластых, маладых і сумных,
доўга ў маўклівасьцях, бесьперастану
болесьці таіў жыцьця мінулага...

Кажны дзеля свайго ахвярнасьці
прыносіць.
Сіл сваіх ніколі не марудзіць моц.
I кажнаму здарэньню прычына знойдзецца.
Хваленьне й падозраньне разбудзіць слава.
I хочацца нарэшце ўспомніць Усяслава,
спытаць прывідлівага Чарадзея:
— Што у жыцьці цябе
хоць раз
перамагала?

З усялякім вераскам
усякае
пачынаецца,
працягваем па-людзку
і можа не закончваем.
Нат кажную парошыну,
здаецца, мы знайшлі,
каб думкай выгаднай абвеяць
і семям гойлівым аддаць зямлі
і нам яшчэ пакінуць.

А сонца зь небам і не рассталася.
Як быццам рэдкім яно вандруе шчасьцем,
як быццам гаспадар сваім дабром,
жадае непадатнага ўнасьціць.

...аж ты спаткалася,
калі я
з думкай гэтай не дакончыў зладзіць.
Спытаўся ўветліва, забыўшыся зусім пра
тваю зраду:
— Няўжо ты коўзалася па лядзінках
шчыльных?

Ад ласкі неспадзеўнай зьдзіўлёная уся,
ты адказала мне і болесна і неяк скратна:
— Ды не-е! Сужэніц мой,
ад сяньня назаўсёды ты будзеш ім,
я ў палацах вадалівы слухала,
о, брунлівыя!

...і я ўняўся позіркам тваім, я прагаманіў
табе
яшчэ больш лагодней:

ты аставайя доўга ў ціхаце маёй
здаецца мне:
мы першыя на сьвеце
пазналі й знайшлі жыцьцё,
што гэтак цяжка выбівалася
ізь сьлёз,
із шчасьцяў
і зноў рыньвіла ў замінах кволых
пакінутых даўно вякоў.

Прымі наш успамін,
каб заўтра не забыліся
сабрацца паглядзець прычын сваіх мінаньне.
Яны, як позьняй восеняй лісты,
жывым ствалом жыцьцё вусьнявілі.

**Я. Юхнавец**

Астап Бярозка

## *Ля гаманкіх брамаў*

**Прысьвячаецца Матальсею Сяньнюхоўцу**

МОТТО: Ня кідайце пэрлаў
перад вяпрукамі.

**Ад аўтара:** Усялякае падабенства паміж творам і якіміколечы вершамі ці асобамі, жывымі а ці памерлымі, знарок і наўмысьля начыста й безадказна запярэчваецца.

**Паясьненьне для злога й цёмнага натоўпу:** Усё, што наступае ніжэй, як хто-хоць з глуздамі сам можа бачыць, — чыстая паэзія, і не для вас пісаная.

**Ад першага чытара:** Аўтар ніжэйшага (і вышэйшага) — стары й поўны жоўці цынік, і тое, што ён кажа, ня вартае ніякае ўвагі.

*

Тройчы ў браму да манашкі я пастукаў,
Бо зьнявэрыўся ў бясплоднай веры.
Зоры белыя ды з моўкным шорахам
Адчынілі насьцеж тыя дзьверы.

Крумязою мае вочы загацелі,
Успупянуліся нырчаныя вантробы
I зрынуліся нягойныя сабілы
Ды ляглі на лыкі для жалобы.

Чую — у стомах апатайнае мастэчы
Альфамэжыцца трыдзяжка размасьцейная,
Загачары мае надкія кунежаць
Выцюцюлі у закрозьзі кудасейным.

Каламуць загаркая зьнячэўку
Распрасьцягвае плявузную цяцёмку,
Куцеляпіць ступацейная кукуля
Ўцёмку цюцькі цяўкаюць няёмка.

Бачу —
нудзьдзю стыняць брамы ўвочныя,
Чорна весіцца зацьмяра-патарочча
I мадзее вудзядзень паўночны
Крумязою зацягае мае вочы.

Знаю —
прыдуць ў муках велічы паэты,
Плыціню душы малой паставяць стоцьма,
Калатушу неахайную скаверзяць
Ды затопяць слоў нямою процьмай.

Прыдзе крытык із пахвальным дытырамбам,
Агародзіць іх эўлёгій мурам,
Панэгірык лабацейны прысупоніць
I засклюціць ўсё ў літаратуру...

А натоўп —
той нізкі й вульгарны
Із душой зайздроснаю, бы злыдзень,
(Ня дай, Божа, паказацца масе)
прыдзе, гляне, плюне,
— дый адыдзе...

**Верасень 1955.**

**Власт (Вацлаў Ластоўскі)**

## Прыгоды Панаса і Тараса

### I. ПАНАС І ТАРАС ЕДУЦЬ ЛЮДЗЕЙ І СЬВЕТУ ПАБАЧЫЦЬ

Нядзеляю ў ваднэй зь вёсак Піншчыны Панас і Тарас седзячы на прызьбе, гутарылі аб тым, якія дзе жывуць людзі і аб іхных звычаях і парадках.

— А ведаеш што? — кажа Панас, — Гэта, што мы тут гаворыма і аб чым баюць старыя людзі, мо і няпраўда. А каб даведацца, як запраўды жывуць людзі на белым сьвеце, лепш вось што мы зрабем. Дзеці ў нас абодвых дарослыя, з гаспадаркай уходаюцца, могуць ужо абыцца і бяз нашай рады. Мы ўжо адсеяліся, і цяпер якраз такая пара, што нам усёроўна няма чаго рабіць, а коні ў нас таксама ёсьць гуляшчыя, — дык чым церціся па цяньках, паедзем лепш у белы сьвет паглядзець, як людзі жывуць.

— Праўду кажаш, кум, — згадзіўся Тарас, — едзьма! Толькі зараз-жа трэба зьбірацца, каб да касьбы і жніва пасьпець зьвярнуцца да хаты.

Сказана — зроблена.

Разыйшоўшыся пахатах, Панас і Тарас зараз-жа загадалі сваім бабам рашчыніць хлеб і падрыхтаваць на аўторак усё патрэбнае ў дарогу.

На другі дзень, пакуль бабы пяклі хлеб і аладкі, білі масла, рабілі сыры, і варылі кумпячыну на дарогу сваім дзядом, мужчыны прыбіралі воз, шмаравалі колы, гатавалі аброк, кавалі і кармілі коні, аглядалі запражку.

Згодна з прыказкаю «едзеш на дзень, а хлеба бяры на тыдзень», добры гаспадар без адпаведнага запасу ежы ў дарогу ніколі ня выбіраецца. Дык вось, Панас і Тарас, улажыўшы ў мяшок па тры боханы хлеба, па добраму апольцу сала, па кумпяку, паштук пяць сыраў, па добрым слоіку масла і, дадаўшы да ўсяго гэтага яшчэ стаўпец аладак, — знайшлі, што харчоў павінна стаць на добры шмат дарогі. Апрача гэтага, паставілі ў воз поўную дзяжу талакна. На ўсялякі выпадак адлічылі яшчэ ў падарожныя капшуке па дзесяць рублёў грошы, налажылі воз сенам і аброкам, а зьнізу за трайню прывязалі вядзерца з каланіцай. На ўсялякае здарэньне ўлажылі ў воз сякеру. Панасавага каня, як старэйшага, запрэглі ў вагроблі, а Тарасавага, маладога, прыпрэглі збоку.

У ваўторак рана, ледзь золак, яшчэ да ўсходу сонца, Панас і Тарас падмацаваўшыся добра аладкамі з салам і, падапрануўшы пад новыя сьвіткі яшчэ кажушке, крануліся ў дарогу.

Едуць, гутараць, піпачкі пакурваюць... Іхныя конікі патрухваюць.

Да Пінску дарога і людзі ўсе знаёмыя: сюды што кажнага аўторку яны на кірмаш езьдзяць. Гэтым разам кірмашнікаў таксама ехала шмат і Панас з Тарасам у грамадзе не заўважылі, як апынуліся ў Пінску.

Тут сустрэліся яны із знаёмымі ды з роднымі, распыталіся ў іх дарогу на Берасьце.

Урэшце, дзеля адвагі і цяпла ў ногі, «зрабілі па паўкварты» і паехалі далей.

Едуць сабе, едуць міжсобку гутараць, піпачкі пакурваюць. Каго ні сустрэнуць, «дабрыдзень» скажуць, дарогу распытаюць. Да людзей, да іхнае работы прызіраюцца, але пакуль што, нічога новага ня бачаць: людзі, як людзі, усе такія, як Панас із Тарасам. Ведама, — свая старонка!

Удзень едуць, уначы папасуюцца. Прылучацца дзе да вясковых начлежнікаў, распрагуць сваіх конікаў, пусьцяць іх на выган, а самі пагаманяць зь людзьмі каля вогнішча, крыху пасьпяць ды адпачынуць і із усходам сонейка ізноў у дарогу.

### II. МАЗУРЭ

Да Берасьця нічога новага ня бачылі Панас з Тарасам: усе людзі, як людзі, — і гавораць аднолькава.

— А ведаеш, Тарас, пэўна махлююць старыя людзі, што ёсьць на сьвеце народ мазурэ? — кажа Панас.

— Чаму? — пытаецца Тарас.

— А таму, што вось мы гэтулькі ўжо праехалі, а нікога і нічога новага яшчэ ня бачылі: усё наш брат і нашая гаворка. Ці невярнуцца нам ужо да хаты? Бо гэтак і ўвесь сьвет аб'езьдзіш, а навіны домоў ня прывязеш і сам розуму не набярэшся.

— Пачакай, Панас, я чуў, што гэтыя самыя мазурэ, што родзяцца сьляпымі, жывуць за Берасьцем, а тут ужо, кажуць, ня шмат засталося. Яны — тыя-ж самыя Палякі, бо жывуць у Польшчы. Гаворка іхная таксама польская, толькі надта ўсе яны шапечуць, і калі хутка залапоча ды зашапеча мазур, а асабліва мазурыха, дык пакуль не абслухаешся, дык цяжка і зразумець, што яны гавораць. Вечная памяць, мой бацька нябожчык казаў, што мазур не адважыцца назваць сябе Паляком датыхчас, пакуль не пачне адзяваць нагавіц. А хлапцэ ходзяць у іх без нагавіц аж да тэй пары, пакуль не спатрэбіцца ісьці ў сваты, або ў войска, бо датыхчас дзяцюк усё яшчэ лічыцца блазнам. Не дармаж-ж у нас кажуць «мазур-безпарточнік». А як ужо мазур улезе ў нагавіцы ды ўсадзіць у капялюш пяро з пятушынага хваста, дык тады ўжо хоць і босы, але ходзіць, галаву задзёршы. А як яны дзіўна вучацца нагавіцы адзяваць! Але я табе аб гэтым цяпер не скажу, бо табе ўсё скажы, дык і ехаць далей не захочаш. Пэўна пабачым гэта на свае вочы.

Зацікавіўся Панас і дамоў зьвяртацца раздумаўся.

### III. МАЗУРЭ НА КІРМАШЫ

Едуць далей. Прыехалі ў Берасьце. Прыгожы горад! Спадабаўся Панасу і Тарасу. Знайшлі, што нат лепшы за Пінск.

Быў якраз кірмашны дзень. Пайшлі яны на рынак. Ходзяць, да тавару, да людзей прыглядаюцца, да іхнае гутаркі прыслухаюцца.

— Тарасе, а Тарасе! Хадзі хутчэй сюды! Паслухай, як говорыць вунь тая баба, што сыры на возе прадае: здаецца, — не па-нашаму. Падыйшлі, — слухаюць. Пытаюцца, па чым сыры.

— По цтэнры злоты і цьверць з вагі ззуцам! — хуценька адрэзала баба.

— Ты зразумеў, Тарас?

— Не! А ты, Панас?

— І я нічога не .зразумеў! Калі яна надта хутка забалбатала ды яшчэ нейкая шапятлівая.

— Ну, дык гэта — пеўна мазурка. А што? Я казаў табе, што варта ехаць далей!

# Народны абрад Калядаў

(Працяг зь 1-ай бачыны)

цю ў хаце, пакідаць за сталом месца для нябошчыкаў. У некаторых мясцовасьцях Беларусі перад тым, як сесьці за куцьцю, клікалі ў вакно мядзьведзя: «Мядзьведзь, мядзьведзь ідзі з намі куцьцю есьці!»

З прыняцьцем хрысьціянства (у X ст.), пад уплывам жыватворчых рэлігійных ідэяў,ператварыліся і ўсе каляндарна-сэзонныя абрады. Каляды сталіся вялікім сьвятам Божага Нараджэньня, сьвятам дзіцяці-Хрыста, які «расчыніў брамы пекла й перамог сьмерць». Шырокую прывабнасьць на Беларусі атрымалі гэтыя сюжэты і тэмы Божага Нараджэньня, Бэтлеемаўскія ясьлі, пакланеньне трох Каралёў, зорачкі, якая паказвала ім шлях і г. д. Ад XVI стагодзьдзя былі ведамыя на Беларусі гэтак званыя Бэтлейкі — народныя калядныя прадстаўленьні (спэктаклі) лялькавага тэатру, дзе ў пераноснай скрыні (аднаго і двух паверхаў) разыгрываліся сцэны Хрыстовага Нараджэньня. Ад гэтых бэтлеяк-спэктакляў (п'есы «Цар Ірад», «Цар Максімільян») захавалася шмат паасобных песьняў, што захавалі назоў бэтлеяк, якія сьпяваюцца і ў нашыя часы, прыкладам: «Неба і зямля», «А у лузе, лузе», «Ой, на моры, моры» і г. д.

Калядныя сьвяты — поўныя глыбокага сэнсу, багатыя эмацыянальнымі пачуцьцямі, прыгажосьцю і хварбамі, што перапляліся ад ставечных анімістычных і новых хрысьціянскіх абрадаў і звычаяў, набылі шырокае значэньне рэлігійнае, гаспадарскае, сямейнае і сьвяточна-бытавое. На Каляды вечарамі ходзяць па дварох і хатах групы моладзі, што атрымалі назовы калядоўшчыкаў, зорачнікаў, зьвяздароў. Паводля старых традыцыяў, сярод іх існуе герархія: ёсьць пачынальнік або «шчынальнік» (запявала), механос (скарбнік), музыка (скрыпак або баяністы) і простыя сябры валачобнай вандроўнай групы:

— «Хадзілі, гулялі калядоўшчыкі,
Каляда, каляда!

Калядоўшчыкі перш за ўсё выконваюць сьвяточны рэлігійны трапар, а за ім бэтлейку. Тутака пачынаецца размова калядоўшчыкаў:
«Ці вяліш, гаспадару, Каляду засьпяваці,
Ці так калядзе даці?»
або:

« — Я маленькі хлопчык,
Сеў на стопчык,
У дудачку граю
Хрыста праслаўляю,
Вас усіх ізь сьвятам вітаю!»

Тады пачынаюць сьпяваць калядку, у якой віншуюць гаспадароў:

«Ясен месяц — Пана Івана
Красна-сонца — жану яго,
Дробны зорачкі — дзетачак іх»

Калядка мусіць абавязкава пажадаць («заклікаць») гаспадаром ураджаю на палёх:

Дай табе, Божа, і ў каморы,
і ў ваборы!

Дзе гара — там жыта капа,
Дзе лог — там сена стог!»

Разам з тым павязваецца тэма і плоднасьці ў сьм'і:

— «Ой, красна, красна каліна ў лузе,
А красьней таго Мар'ячка ў таткі.
Прыгожа — красна
Ручнікі нясла.
Госьцейкі ўзялі,
Бацьку дзяквалі».

Пасьля калядак часта ішла тэатралізаваная сцэна з казою, зь мядзьведзям ці канём, маючая так-сама за мэту заклікаць ураджай гаспадару ўлетку, ды павіншаваць тых, хто «у гэтым даму».

Выхад калядоўшчыкаў меў свае традыцыі.

— «Табе, дзядзька, каляда,
А нам падавай вялікага пірага!»

Гаспадары, звычайна, шчодра абдароўвалі каляду, без таго неньга было спадзявацца на добры ўраджай. Тады калядоўшчыкі пакідалі хату:

— «А за гэтым словам
Ды сьвяткуй здароў
І зь сямейкаю,
Зь весяленькаю!»

Каляды яшчэ пара сватаньня, агледзін, вясельляў. Шмат якія калядкі выхваляюць прыгажосьць дзяўчыны, хлопца, суджанства, жанімства:

— «Што красну дзеўку,
То й Міколе...
Саколе ясны,
Малойчык — красны
Мікола!»

Асабліва гэта ўяўляецца ў калядных карагодах, іграх і скоках, бальшыня зь якіх пабудаваныя на любоўнай тэматыцы. Такія ёсьць карагод «Цараў сын, каралёў», дзе хлопец выбірае сабе дзяўчыну, або гульня «Яшчур», што «парошы точыць і жаніцца хочыць», і, нарэшце, калядная народная сцэна «Жаніцьба Цярошкі», дзе адлюстроўваецца ў камічным дусе ўвесь працэс беларускага вясельля.

— «Цярошка, Цярошухна,
Цераз бор дарожухна,
Цярошка валочыцца —
Жаніцца яму хочацца!»

Каляды да таго яшчэ найцікавейшае сьвята і пара ўсялякіх гульняў, весялосьці, асабліва для беларускіх дзяцей:

— «Ой, калядачкі,
Бліны, ладачкі
Ой, люлі, люлі, люлі, —
бліны ладачкі!»

Сьнежкі, сьнежныя бабы, ледзяныя ўзгоркі, саначкі, канькі, — нязьлічоныя колькасьці ўцехі, радасьці, весялосьці.

На Беларусі стары і малады прывык лічыць Каляды адным з найдаражэйшых для сэрца сьвятаў, іхнюю жыцьцёвую моц не адолець анікому.

Ці бывае хто ня рады
Надыходзячым Калядам, —
Сьвята на Беларусі
Надзвычайнае для ўсіх!...

**М. Кулікові**ч

# З казою

**Каза — Беларуская народная гульня**

**Дзед:**
Добры вечар таму,
Хто ў гэтым даму!

**Усе:**
Добры вечар!

**Калядоўшчыкі:**
Эх, калядачкі, бліны-ладачкі,
Ай, люлі-люлі-люлі, бліны-ладачкі.
Эх, калядачкі, вы хутчэй, хутчэй,
Напячэм бліноў мы з дражджэй,
дражджэй.
А калядныя бліны ладныя,
Ай, люлі-люлі-люлі, бліны ладныя!

**Правадыр:**
Добры вечар таму,
Хто ў гэтым даму!
А мы самі ідзем
Ды казу вядзем.

**Калядоўшчыкі:**
Антон казу вядзе,
Тыц, мыц, каза ня йдзе,
Антон ззаду падганяе,
Каза хвост паднімае.
Антон яе ножкамі,
Каза яго рожкамі,
Пайшла каза скачучы,
Антон за ёй — плачучы.

**Каза:**
Я не баюся ў полі лаўца,
Я не баюся ў лесе стральца,
Толькі баюся дзеда старога.

**Калядоўшчыкі:**
Стары дзед ідзе,
Барадой трасе,
Кіем махае,
Моцна чыхае,
Стралу вымае
Страляці мае...

**Дзед:**
Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Дзе ты хадзіла,
Дзе рожкі дзела?

**Каза:**
Па жоўтых пясках,
Па цёмных лясох,
Па сунічніку,
Па брусьнічніку.

**Дзед:**
Што там рабіла?

**Каза:**
Ягадкі брала.

**Дзед:**
Дзе рогі дзела?

**Каза:**
На соль праела.

**Калядоўшчыкі:**
Ой, ты казіца,
Ўстань, не ляніся,
Ды гаспадаром
Ў ножкі кланіся!

**Дзед:**
Дзе каза ходзіць,

**Калядоўшчыкі:**
Там жыта родзіць!

**Дзед:**
Дзе каза хвастом...

**Калядоўшчыкі:**
Там жыта кустом!

**Дзед:**
Дзе каза нагой...

**Калядоўшчыкі:**
Там жыта капой!

**Дзед:**
Дзе каза рагом,

**Калядоўшчыкі:**
Там жыта стагом!

(Каза, скачучы, робіць тое, што сьпяваецца дзедам і калядоўшчыкамі).

**Правадыр:**
Дай Божа,
Каб усё было гожа.
Каб гаспадару добра жылося,
Соладка пілося,
Каб збожжа вялося,
Каб каласы, як трэба, —
Да самага неба,
Каб качкі у жыце,
Каб ты ў аксаміце!

**Дзед:**
Добры пан,
Дай мёду жбан,
Можа і гуску
На перакуску.

**Каза:**
Дай шматок сала,
Каб жыта жала
Рэшта аўса,
Наверх каўбаса!

**Калядоўшчыкі:**
Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Закладай рогі,
Падбірай ногі.

**Правадыр:**
З хаты выхадзі,
Бяду вынасі,
Уцякай хутчэй
Ты зь людзкіх вачэй!

(Усе зь песьняю «Го-го-го каза» выходзяць).

(Падаў **М. Кулікові**ч)

# *Ой, на моры, моры*

**(Калядка-бэтлейка)**

Ой, на моры, моры,
Ды на сінім, сінім,
Прыпеў: Шчодры вечар,
Добры вечар! (2 разы)
Там ляжала кладка,
Ляжала кедрова.
Шчодры вечар,
Добры вечар! (2 разы)
Там Хрыстова Маці
Рызы паласкала.
Шчодры вечар,
Добры вечар! (2 разы)
Хто-жа гэты рызы
Будзе апранаці?
Шчодры вечар,
Добры вечар! (2 разы)
Будзе апранаці
Сам Ісус Хрыстос Бог.
Шчодры вечар,
Добры вечар! (2 разы)



— Ну, дык ідзем яшчэ прыслухацца, — кажа Панас. Ідуць, прызіраюцца і да мовы прыслухаюцца.

— Панас! Хутчэй, хутчэй, глядзі, як вунь той чалавек на кані паехаў!

—Дзе, які?

— Вунь, недалёка ад студні.

Панас, як пабачыў, дык аж мала не пакаціўся ізь сьмеху! На кані сядзіць сярэдніх гадоў чалавек тварам да заду і, аберуч трымаецца за хвост, каб не зваліцца, усё глядзіць у той бок, адкуль едзе, а другі чалавек вядзе каня за вобруць.

— Во, праўду-ткі кажуць: «Што край, то звычай». У нас гэтак конна ня езьдзяць. Хадзем, Панас, паўзіраемся, што далей будуць рабіць гэтыя людзі з канём!

Падвёў чалавек каня да студні, наліў у карыта вады, — поіць, а той, што на кані, вокам няміргне, ні на кога ня гляне і сядзіць, як слуп, утаропіўшыся на вазэ, ад якіх ехаў.

Хочацца Тарасу з Панасам распытацца, што значыць гэтая праява, але разам і брыдка ім паказацца сярод чужых людзей, нічога ня ведаючы.

Аж на шчасьце, пабачылі знаёмага жаўнера зь іхнае вёскі, які служыў у Берасьцейскай крэпасьці. Вельмі ўзрадаваліся, што спаткалі сваяго чалавека і зараз-жа пытаюцца.

— Скажы, Арцёмка, чаму гэты чалавек сядзіць на кані да хваста тварам і ўсё нейдзе ўглядаецца, нат вокам ня міргне?

— А гэта, бачыце, мазурэ, як прыедуць у Берасьце на кірмаш, дык, каб не адлучыцца ад сваіх і ня згубіць воза на рынку, вядуць у двох паіць каня. Пакуль адзін вядзе каня і поіць яго, другі вось сядзіць на ім і ўвесь час сочыць свой воз, каб ня спусьціць яго з вока і каб потым ня шукаць. Але гэта што? Вось вы пабачыце яшчэ цікавейшыя рэчы...

— Тарас, Тарас! Глядзі, на што гэтыя людзі, вунь ідучы, усё клубкі размотваюць?

— Дзе? Пакажы!

— Вунь, у ваднаго чалавека клубок ніцей у руках, там вось другі размотвуе, ідучы ў краму, а вось баба распускае за сабою ніці... Арцёмка, што гэта яны робяць?

— А гэта — таксама мазурэ. Яны ў Берасьце бяз клубка ніцей ніколі ня едуць. Бо, калі трэба ім адыйсьціся каму-небудзь ад свойго воза, дык, каб трапіць ізноў на тое месца, — распускаюць за сабой ніці, а потым, ідучы назад, ізноў змотвуюць іх у клубке.

— То хіба яны надта далёка жывуць ад Берасьця, калі гэты горад ім гэтакі не знаёмы?

— Не! Жывуць яны бліжэй, чым адгэтуль нашая вёска, але яны ўсе нейкія надта блуклівыя. Часта здараецца, што мазур на сваіх палетках заблукаецца.

— Брэшаш, Арцём! Як-жа можна ня ведаць сваіх палеткаў?

— Я сам быў сьветкам гэтага здарэньня!

— Ну, раскажы, як гэта было?

## IV. БЛУКЛІВАСЬЦЬ МАЗУРОЎ

— Былі мы вось у мазурскай старане на манеўрах і стаялі ў ваднэй вёсцы. Дык адзін гаспадар, у якога я быў на кватэры, паехаў у поле гараць. Але ня трапіў на сваю ніву, ды загараў суседнюю. Назаўтрае лучыў якраз на сваё поле. Глядзіць і дзівіцца... Што за ліха! Учора гараў, а сяньня ўжо травою зарасло? Ну, але раз гараў, то трэба і засеяць. Так і засеяў мазур нягоратую ніву! Або вось у нашай батарэі служаць два мазурэ, дык жыватэмы зь іх панадрывалі: што дзень, то ўсё сьвежую штуку яны выкінуць. Служаць яны тут ужо з паўгоду, а адзін зь іх і дагэтуль ня можа ніяк знайсьці свайго ложка, як трэба спаць класьціся: заўсёды на чужым умосьціцца, пакуль яго не завядуць і не пакажуць ягонага месца. А наранкі, як схопіцца, дык заўсёды то чужыя боты абуе, то нагавіцы або мундзер чужы адзене, або ў чужую скрынку залезе, шукае ў ёй сваіх рэчаў і лаецца, калі не знаходзіць. І сьмех, і бяда зь ім! А другі, — дык праз даўгі час ніяк ня мог запамятаць, дзе ў яго правая і дзе левая нага. Калі яму кажуць пачынаць ісьці зь левай нагі, — ён ступае праваю, і наадварот, — дзе трэба ступіць праваю, — ён суне левую. Нарэшце, каб ён мог адрозьніць, узялі ды прывязалі да левае нагі сена, а да правае — салому, і ў часе машыроўкі, заміж каманды «левай! правай!» крычалі яму «сена! — салома! сена! — салома!» І сьмех, і бяда! Але за месяц усё-ж ужо добра ведаў ён, дзе правая і дзе левая нага.

Зацікавіліся Панас і Тарас мазурамі.

— А што? Я казаў табе, што трэба ехаць далей! — упікнуў Тарас Панаса.

— Твая праўда, Тарасе! Ну, дык цяпер ужо едзьма далей, паглядзімо на гэтых мазуроў...

З радасьці, што сустрэліся зь сваім чалавекам, Панас і Тарас згодна з прыказкаю, што «добры гаспадар ня толькі ў жываце, а нат у ботах вады ня любіць», пачаставаліся з Арцёмам квартаю гарэлкі, добра папалуднавалі, распыталіся дарогу і паехалі далей.

## V. ПАНАС І ТАРАС ВУЧАЦЬ МАЗУРОЎ ГАРАЦЬ ВАЛАМІ

Едуць яны, едуць, міжсобку гутараць. Піпачкі пакурваюць, конікі патрухваюць.

Празь лясэ, пале праяжджаюць, мясцовасьць аглядаюць. Цікавяцца, як людзі поле абрабляюць, чым гаруць, чым засяваюць.

Едуць дзень, едуць другі, — усё тыя-ж людзі, тыя-ж самыя звычаі.

— Што за ліха? Дзе-ж тыя мазуры жывуць? — пачаў зноў непакоіцца Панас.

— Не пары гарачкі! — адказвае Тарас, — цяпер пэўна ўжо недалёка...

— Глядзі, глядзі, Тарас! Што гэты чалавек вунь робіць:

— Ну, што-ж?.. Гарэ!

— Гарэ, то ён гарэ, але здаецца — ні канём, ні валом.

— А кім-жа ён гарэ?

— Здалёк не разабраць, — едзьма хутчэй!

Подагналі конікаў, пад'яжджаюць бліжэй.

Праўда, — чалавек гарэ, але саху цягне баба.

— А што? Праўда-ткі, што мазурэ на бабах поле гаруць!

— Ну, цяпер і я паверу, — кажа Панас.

— Чалавеча добры! Што робіш? — пытаюцца.

— Гару! кажа той.

— А дзе-ж твае валэ?

— Нашто валэ? Пры чым яны тут? Яны вось на пашы!

# Антыангла-амэрыканская прапаганда ў БССР

Ад самага пачатку камуністычнай улады ў Савецкім Саюзе бесьперапынна вядзецца варожая прапаганда супраць народаў Вялікабрытаніі і Задзіночаных Штатаў Амэрыкі. Савецкая прэса, радыё, усялякія прынагодныя прамовы кляймілі і кляймяць гэтыя краіны мянушкамі гнілой буржуазіі, людаедзкага капіталізму і прагавітага імпэрыялізму.

Было-б цікавым прасьлядзіць усю тую хлусьню на працягу цэлага пэрыяду савецкага рэжыму і на ўсей прасторы камуністычных уплываў. Тут мы абмежываемся куды скрамнейшай тэмай: мы затрымаемся на антыангла-амэрыканскай прапагандзе ў БССР, якой доказы знаходзім у беларускай савецкай прэсе на працягу пэрыяду ад апошняй сусьветнай вайны.

Савецкая прапаганда супраць ЗША і Вялікабрытаніі ўзрастала або прыціхала ў залежнасьці ад вонкавых абставінаў. Гэтак у часе апошняй вайны, калі ўспомненыя дзяржавы ня толькі былі фармальнымі саюзьнікамі супраць гітлераўскай Нямеччыны, але і галоўнымі дастаўцамі вайсковай правізіі для Савецкай арміі. Час вайны быў вымушанай на камуністых «перадышкай» паўстрыманьня супроцьангла-амэрыканскай прапаганды. Хутка аднак пасьля вайны яна аджыла і то на ўсіх фронтах: друк, радыё, кіно, мітынгі.

Для лепшага ўяўленьня цэласьці пытаньня, мы павінны адрожніць антыангла-амэрыканскую прапаганду паводля свайго спосабу вядзеньня і паводля зьместу: 1) супольную для ўсяго Савецкага Саюзу, 2) асаблівую для Беларусі.

Да першай катэгорыі належаць г. зв. ідэялягічныя артыкулы газэт або цэлыя друкаваныя працы аб камуністычнай сыстэме аб марксізьме, ленінізьме і сталінізьме. У гэтым выпадку падае тон камуністычная партыя, звычайна праз свой ворган «Праўду», зь якой зачастую перадрукоўваюць на розных мовах іншыя рэспубліканскія газэты.

Для прыкладу, як гэтага роду прапаганда выглядае, падамо выняткі з артыкулу «Праўды» з дня 3 чэрвеня 1947 г., які носіць назоў: «Савецкая ідэялёгія — перадавая ідэялёгія нашага часу». Наступнага дня, г. зн. 4 чэрвеня знаходзім гэты самы артыкул у менскай беларускай «Звязьдзе».

«Няхай сучасныя ідэялёгі капіталістычных краін у ўгоду эксляататарскім клясам — чытаем у «Звязьдзе» — сіляцца апраўдаць гістарычна аджыўшыя формы грамадзкага жыцьця.! Ім не павярнуць кола гісторыі. Толькі Савецкая ідэялёгія правільна адлюстроўвае патрэбнасьці разьвіцьця матарыяльнага жыцьця грамадзтва, карэнныя жыцьцёвыя інтарэсы працоўных мас ... Буржуазнаму індывідуалізму і прагавітасьці, пагоні за нажывай і чыстаганам савецкая ідэялёгія процістаўляе таварыскае супрацоўніцтва, гармонію асабістага і грамадзкага ...»

У гэтым кароткім адрэзку артыкулу мы маем усе сутныя прыметы савецкай прапаганды: **абсалютны эксклюзывізм** савецкай ідэялёгіі, якая адзіная была-б здольнай вырашыць сацыяльную праблему; **намаганьне спляміць** бязь ніякіх доказаў іншы сацыяльны парадак; кінуць у вочы праціўніку **масу слоў** з марксістоўска-камуністычнага лексікону, якія быццам ужо самі па сабе ёсьць ганьбай для кажнага чалавека: капіталізм, буржуазія і т. п.

Такая прапаганда ня сходзіць з савецкай прэсы. (Гл. прыкл. В. Платкоўскі, Аб пераадоленьні перажыткаў капіталізму ў сазнаньні людзей, «Звязда» з дн. 25 чэрвеня 1947 г. — «Сьцяганосец міру» артыкул «Праўды» з дн. 23 вер. 1950 г., выдрукаваны ў менскай «Звязьдзе» дн. 24 вер. 1950 г.).

Да першай катэгорыі антыангла-амэрыканскай прапаганды трэба залічыць так-жа замежныя весткі, падаваныя савецкай прэсай для сваіх грамадзян і вельмі старанна рэдагаваныя. Камуністыя вельмі добра ведаюць, што савецкі чытач заўсёды мае настаўленае вуха на весткі, якія так ці інакш даходзяць з паза зялезнай заслоны. (Глядзі аб гэтым А. М. Кармаков, Реакция советского населения на пропаганду, Мюнхен 1954, бач. 26 і інш.). Аднак паміма яго зацікаўленасьці, ён знаходзіць у савецкім друку вельмі мала.

Сяньня кажны з савецкіх аўтараў — ці гэта журналісты, ці пісьменьнік — зь перакананьня ці з мусу, павінен трымацца камуністычнай догмы, што буржуазная культура — гэта гніль. Значыць у краіне «найбольшага прагрэсу» трэба змагацца з паклонствам буржуазнай культуры.

Якжа-ж гэта змаганьне выглядае на справе?

У Савецкім Саюзе ня існуе аб'ектыўная, рачовая інфармацыя. У газэтах, часапісах, кніжках ніколі ня знойдзе чытач вестак аб вынаходах у Амэрыцы, Вялікабрытаніі ці ў іншых краінах. Пры адначасовым раздуваньні ўсяго савецкага, пры фальсыфікацыі найбольш ведамых адкрыцьцяў (прыкладам, радыя вынаходнікам у Саветах ёсьць Попов, а аб Марконі ніхто ня мае права заікнуцца), існуе поўнае замоўчваньне ўсяго таго, што дзеіцца ў «краінах капіталізму».

Ува ўсей савецкай прэсе даслоўна мільёны разоў паўторана савецкім грамадзянам, што агрэсарамі ў карэйскай вайне былі Амэрыканцы, што Маў-Маў змагаюцца супраць ангельскага капіталізму, што Саветы — сьцяганосцы міру, а Англасасы — ваенныя падпальшчыкі.

Вось прыклад. Дня 26 верасьня 1950 г. менская «Звязда» надрукавала вялізарны артыкул пад загалоўкам: «Жудасныя злачынствы амэрыканскіх інтэрвэнтаў у Карэі. Другое паведамленьне Камісіі ЦК Адзінага дэмакратычнага айчыннага фронту Карэі па расьсьледваньні і вызначэньню страт і злачынстваў, прычыненых амэрыканскімі агрэсарамі і клікай Лі Сын Мана».

Чаго толькі ў гэтым «паведамленьні» саштукаванай для прапаганды Камісіі няма.

Мэта вайны ў Карэі — паводля артыкулу — яе калянізацыя Амэрыканцамі. Для выйгрышу вайны Амэрыканцы дапускаюцца бесчалавечных злачынстваў: бамбяць школы, культурныя ўстановы, расстрэльваюць нявінных людзей.

«Амэрыканскія ўзброеныя інтэрвэнты прабуюць зламаць волю карэйскага народу, які супраціўляецца амэрыканскай агрэсіі, і пагражаюць свабодалюбнаму карэйскаму народу голадам і пакутамі. Але карэйскі народ, поўны абурэньня і нянавісьці да амэрыканскіх варвараў, якія прабуюць патапіць Карэю ў моры крыві, поўны рашымасьці змагацца супраць амэрыканскіх захопнікаў да канчатковай перамогі ў сьвяшчэннай вайне за сваю свабоду і незалежнасьць сваей радзімы».

Ня цяжка дагадацца, што падсоўваная ў артыкуле Карэйцам ненавісьць да Амэрыканцаў — гэта аўтэнтычная ненавісьць маскоўскай камуністычнай партыі, а кракадзілавы сьлёзы над няшчасьцямі абіджаных Карэйцаў — эмоцыянальны спосаб узьдзейваньня прапаганды ў даным выпадку на беларускі народ, які павінен так-жа ненавідзець Амэрыканцаў, як і Карэйцы.

Побач вышэйуспомненага артыкулу, у тым-жа самым нумары «Звязды» падаюцца кароткія весткі з цэлага сьвету. Вось пару вестак з Амэрыкі: «Амэрыканскі народ патрабуе адмены фашысцкага закону Какарэна-Кількова». «Амэрыканскі народ» — гэта таварыш Фостэр, старшыня компартыі ЗША і яго сакратары ... Навет для савецкага чытача нятрудна дагадацца, што той «фашысцкі закон» — гэта нешта нявыгоднае для амэрыканскіх камуністых і таму падымаецца крык. На тым самым месцы, крыху ніжэй, іншая вестка: «Амэрыканцы пастаўляюць у Японію заражаную муку». Пад гэтым загалоўкам высьненьне: пасланая ў японскія школы Амэрыканцамі мука была з чарвякамі, даўжынёй з аднаго цэнтымэтра ... Сэнс такой весткі: брат Беларус, не надзейся на Амэрыканца!

Падобных прыкладаў антыамэрыканскай прапаганды знойдзем шмат блізу ў кажнай савецкай газэце ці часапісе. Яны прыгатоўваюцца вярхушкай для ўсяго савецкага апарату прапагандnай службы. Беларусь зьяўляецца патолькі ахвярай такога роду прапаганды, паколькі яна падаецца і ў беларускай савецкай прэсе.

**(Заканчэньне ў наступным нумары)**

**А. Дзе-ка**

# Палітычны білянс 1955 году

**(Запанчэньне з 2-ой бачыны)**

кую арэну выбралі савецкія правадыры й па тое, каб на ёй абвесьціць свой паварот да халоднае вайны. У цынічных словах яны адкрыта падбухторваюць азіяцкія народы супраць «каляніяльнай» палітыкі заходніх дзяржаваў, а Хрушчоў двойчы, — адзін раз у Бамбаі ў Індыі, а другі ў сталіцы Бірме Рангуне — наўсуперак яшчэ незацёртых у памяці гістарычных фактаў, афіцыйна абвінаваціў заходнія дзяржавы, што гэта яны распалілі пажар другой сусьветнай вайны і кінулі супраць Савецкага Саюзу ўзброеныя арміі Гітлера. Гэтае несправядлівае, аблуднае й цынічнае, а ў сваім тоне грубое абвінавачаньне заходніх дзяржаваў трэба й лічыць пачаткам узнаўленьня Саветамі халоднае вайны супраць Захаду, падмацаванае нядаўным экспэрымэнтальным выбухам савецкае вадароднае бомбы. Сьвежыя савецкія правакацыі ў Бэрліне, якія некаторымі на Захадзе ўважаюцца, як уступ да новае блякады, таксама паказваюць, што Масква ўважае сяньняшні мамэнт за найбольш адпаведны, каб узнавіць курс халоднае вайны.

Гэткі палітычны білянс 1955 году. Ёсьць ён больш грозны й небясьпечны для вольнага сьвету, чымся палітычны білянс папярэдняга 1954 году і хавае ў сабе шмат невядомага й загадкавага. Пацяшаючым можа быць толькі факт, што галасы за канечнасьцю рэвізіі дасюлешнай замежнай палітыкі і зьмены ейнага курсу ў Вашынгтоне і навет у Лёндане што раз больш узмацняюцца. Выпрацаваньня нейкай канкрэтнай палітычнай лініі трэба чакаць ад візыты прэм'ера Вялікабрытаніі Ідэна ў Вашынгтоне, куды ён паедзе 30 студзеня 1956 году. Аднак нейкай радыкальнай зьмены амэрыканскай палітыкі ў 1956 годзе спадзявацца цяжка з гледзішча на прэзыдэнцкія выбары ў Амэрыцы восеньню 1956 году. Радыкальная-ж і адзіная мэтазгодная зьмена заходняй палітыкі магла-б быць толькі такая, у якой Захад перабраў-бы палітычную ініцыятыву ў свае рукі і ад абароны перайшоў-бы да станоўчага наступу. На жаль, сяньня ня бачым яшчэ найменшых сымптомаў такой зьмены.

А таму зь вялікай няпэўнасьцю й трывогаю ўступаем у Новы 1946 Год.

**Язэп Каранеўскі**

# На мяжы надзеі й рэзыгнацыі

Шуміць кал製днымі настроямі бясклапотны рухлівы Мюнхен. Каскадамі пераліваюцца нэоны, рэкамі плывуць натоўпы, дэфілюючы перад магазынамі-палацамі, грозна гудзіць бесьперапынны канвеяр машынаў. Гоман, грукат, званкі, сыгналы — усё зьліваецца ў нейкую гарачкавую мэлёдыю людзкога муравейніку. Мюнхэн жыве, пульсуе, гамоніць, імчыць ...

*

А каля дваццаці кілямэтраў ад яго ляжыць невялікае мястэчка Гаўтынг. Тут — ціха, ціха, быццам іншы сьвет, іншыя людзі, іншае неба, зямля. Ня верыцца тут, што недзе побач існуе Мюнхэн, як і ў Мюнхэне цяжка сабе ўявіць Гаўтынг.

Шэрым паабедзьдзем высядаю на невялікай станцыі. Выходжу на вуліцу й разглядаюся, каго-б тут пытацца дарогі.

— Санаторыюм? — выхіліўшы галаву з таксі, пытаецца шафэр. «Пачым ён пазнаў?» — прабягае думка.

Пару кілямэтраў і дарога ўпіраецца ў браму. Гэта брама ў зусім асобны, замкнуты сьвет, сьвет, які новапрыбылага глушыць сваім спакоем, цішынёй, мэлянхоліяй ... Некалькі блёкаў тыпу казармаў у пэўнай адлегласьці адзін ад другога, а навокал лес. Здалёк ідзе хтосьці па дарожцы, нікуды не сьпяшаючыся, як-бы лічачы паволі крок за крокам ды апусьціўшы галаву дадолу, быццам недавяраючы небу. А гэтае цяжкае валавянае неба тут, як знарок, апусьцілася над блёкамі й сыпе сьняжынкамі, што ў няпэўнасьці пырхаюць, мітусяцца ды паволі таяць на мокрых дарожках.

Заходжу на першы паверх, стукаю ў дзьверы, а ў галаве думка: «Ці пазнае ён мяне, дый я ня вельмі выразна прыпамінаю ягоныя рысы».

Звычайны невялікі белы шпітальны пакоік з трымя шпітальнымі ложкамі. Прызнацца — ТБ-санаторыя ў маім уяўленьні была чамусьці заўсёды падобнай на нейкі камфортны адпачынковы дом, тымчасам — звычайны шпіталь.

— Пазнаеш? — працягаючы руку, пытаюся свайго сябры П.

— Здаецца, пазнаю ... — адказвае ён, запрашаючы сесьці.

Дзесяць гадоў таму: Беларуская Дывізія, палон, лягеры ...

На ягоным століку колькі кніжак, пераважна ў нямецкай і ангельскай мове, колькі розных слоўнікаў ды «Бацькаўшчына».

*

Першыя гады пасьля вайны ў санаторыі былі амаль выключна чужынцы-ДП. З 1950 г., калі санаторыю пераняли на сябе нямецкія ўлады, пачало зьяўляцца штораз больш Немцаў, і сяньня ўжо зь ліку 800 пацыентаў, чужынцы складаюць мяншыню.

Якой тут толькі мовы ня чуецца. Ёсьць і Беларусы: адна жанчына й тры мужчыны (гэта, між іншым, толькі тыя, што афіцыйна запісаныя Беларусамі, усіх-жа — значна больш). Лекарскі й тэхнічны пэрсанал амаль поўнасьцяй нямецкі, аднак, як кажа сябра П., адносіны пэрсаналу да чужынцаў поўнасьцяй карэктныя, ды наагул тут ня робіцца розьніцы між Немцамі й чужынцамі.

Матар'яльныя ўмовы тут ня вельмі дрэнныя, але нястача грошай на найбольш патрэбныя драбніцы ды на вопратку, даволі няцікавае сваёй аднастайнасьцяй і нестараннасьцяй падрыхтаваньне харчаваньня, бязумоўна прыгнятальна адбіваецца, асабліва на тых, што знаходзяцца тут ужо ад 1945 году. Бываюць таксама і такія выпадкі, што некаторыя наагул ня хочуць адгэтуль выходзіць: тут як-ні-як, а ўсё-ж існаваньне забясьпечана, выйшаўшы-ж з санаторыі часамі наагул вельмі цяжка ўладзіць нармальные жыцьцё ды асабліва атрымаць працу.

**(Заканчэньне на 8-ай бачыне)**

— Дык на тое-ж яны і валэ, каб на іх гараць!

Што вы, людцэ? Яны-ж ня будуць ведаць, у які бок цягнуць!

— Нічога! Мы табе вось пакажам, як гэта робіцца.

Панас і Тарас зараз-жа зьлезлі з возу, распранулюся, зрабілі на хуткую руку сякое-такое ярмо, злавілі пару добрых валоў, упрэглі. Адзін на першы пачатак правёў валэ, а другі саху кіруе. Пайшла работа як належыць! Вылупілі мазур з мазурыхаю бакулы і толькі дзівяцца! Што гэта за людзі такія, што і жывёле чалавечы розум могуць надаць? . .

Якбач з пуйганоў нагаралі, а потым кажуць мазуру:

— Ну, цяпер ты сам гары!

Узяўся мазур за саху, падагнаў валоў, — саха проста пішa!

Не надзякуецца мазур, а яшчэ больш ягоная баба!

— Ну едзьма далей, Тарасе! І добрую справу зрабілі, і конікі нашы адпачылі.

Селі, паехалі.

### VI. МАЗУР ВУЧЫЦЦА НАДЗЯВАЦЬ НАГАВІЦЫ

Едуць сабе, едуць, міжсобку гутараць. Піпачкі — пык!-пык!-пык! — пакурваюць. Конікі — трух!-трух!-трух! — патрухваюць.

Прыехалі да вёскі.

У канцы яе, каля збажжовага магазыну, бачаць, — стаіць грамада людзей, і два чалавекі трымаюць аберуч як-бы прарох мяшка, быццам рыхтуюцца насыпаць у яго збожжа.

— Людзі, пэўна, збожжа пазычаць прыйшлі, — кажа Тарас.

Пад'яжджаюць бліжэй, глядзяць, — аж гэта не мяшок, а нагавіцы.

— Глядзі, Тарас, дык тут пэўна ў нагавіцы збожжа насыпаюць!

— Пачакай, што далей будзе? — кажа Тарас.

Прыстоялі, «дабрыдзень» сказалі і прыглядаюцца.

Бачаць, аж на страху магазыну палез малады дзяцюк, ушчарэпіўся на самы хрыбет, прымітыкаваўся насупроць нагавіц і раптам калі пабяжыць із страхі ды — гоц! на зямлю аж вякнуў.

— Не патрапіў! — крычаць мазурэ, рагогучы.

Зноў палез дзяцюк на страху, прымітыкаваўся, — гоц! на зямлю.

— Ня туды! — крычаць зноў мазурэ.

Палез яшчэ дзяцюк на страху...

— Што гэта вы робіце тут, людцэ? — пытаецца Панас.

— А гэта вось мы вучым дзяцюка нагавіцы надзяваць, — кажуць мазурэ, — бо ўвечары, бачыце, у сватэ пойдзе.

— Гэ, ды гэта можна хутчэй зрабіць! — кажа Панас, — дайце сюды нагавіцы! Я пакажу, як іх адзяюць.

Узяў нагавіцы — шмыг! шмыг! у вадну калошыну, у другую, падперазаў пасам, — і гатова справа!

Дзівяцца мазурэ і пытаюцца: «Адкуль вы, людзі?»

— А, — адгэтуль ня відаць. Ну, а цяпер няхай гэты дзяцюк сам спрабуе гэтак зрабіць!

Дзяцюк зьлез із страхі, надзеў звычайным спосабам нагавіцы, углядаецца на іх, сьмяецца з радасьці, рукавом пот з лобу выціраe, цешыцца і зухуе, што ўлезшы ў нагавіцы, сталым Паляком зрабіўся.

Не надзякуюцца мазурэ, што даведаліся спосабу нагавіцы адзяваць!

— Ну, вось ізноў добрую справу зрабілі, а тымчасам і нашыя конікі адпачылі, едзьма далей, — кажа здаволены Панас.

Селі, паехалі.

### VII. ЯК МАЗУРЭ КАРОВУ НА СТРАХУ ЦЯГНУЛІ

Едуць, усё едуць. міжсобку гутараць. Свае люлечкі — пык!-пык!-пык! — пакурваюць, а іхныя конікі — трух!-трух!-трух! — патрухваюць. . .

Прыяжджаюць у вёску.

Бачаць, аж мужыкe цягнуць карову на страху за рогі, а бабы ззаду падпіхаюць.

Зацікавіліся Панас з Тарасам! Прысталі, «дабрыдзень» сказалі, узіраюцца.

А карова, аж раве, упіраецца: ня хоча на страху лезьці!

— Што робіце, людцэ? — пытаецца Панас.

— А ці-ж ня бачыш? Карову на пашу жанямо! — адказваюць мазурэ.

На страсе, праўда, была добрая трава.

— Пачакайце, людцэ, гэта інакш робіцца! — кажа Тарас, — дайце адно сюды касу!

Прынесьлі мазурэ касу.

Тарас зараз намянціў яе, узьлез на страху, — шась!-шась!-шась! — скасіў усю траву, сьцінуў на зямлю і даў карове.

Дзівяцца мазурэ, не надзякуюцца! Пытаюцца, скуль гэткія разумныя людзі?

А стуль, дзе нас цяпер ужо няма! — адказаў Панас.

— А ці далёка гэта будзе ад нас?

— А мы якраз із таго месца, дзе сонейка ўсходзіць!

— А-а-а! . . калі так, дык вы — нашыя блізкія суседзі, бо ў нас сонца вось за лесам усходзіць!

Узрадаваліся мазурэ «блізкім суседзям», паклікалі іх у хату, напаілі, накармілі, аб сабе расказалі.

Рады Панас з Тарасам! І дабро робяць, і ад людзей павагу і падзяку маюць!

— Едзьма далей, Тарас!

Селі, паехалі.

### VIII. ПАНАС І ТАРАС ЛОВЯЦЬ МАЗУРОМ СОНЦА

Едуць усё, едуць, міжсобку гутараць. Свае піпачкі — пык!-пык!-пык! — пакурваюць. Конікі — трух!-трух!-трух! — патрухваюць.

Уехалі ў вёску.

Бачаць, усе хаты без вакон. А з аднэй хаты і старыя і малыя з рознымі начыньмі, — хто з рэшатом, хто зь вядром, хто з дайніцаю, хто з цабэркам, хто зь дзяжой, або проста зь векам ад яе, — выбягуць на вуліцу, зачэрпаюць паветра, бы ваду, прыкрыюць радном і зноў бягуць у хату, і гэтак усё бегаюць і бегаюць, быццам на пажары.

# Водгукі гадавіны Слуцкага чыну

(Заканчэньне з папярэднага нумару)

## Нью-Ёрк (ЗША)

### Урачыстая Божая Служба

35-я ўгодкі Слуцкага Паўстаньня і Дзень Беларускіх Герояў адзначаліся сёлета ў Нью Ёрку ўрачыста. У нядзелю 27 лістапада была адслужана Архірэйская Божая Служба й Паніхіда ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве. Божую Службу адпраўлялі Яго Высокапраасьвяшч. Архіяпіскап Васіль з Яго Высокапраасьвяшч. Архіяпіскапам Украінскае АПЦ Богданам у васысьце а. а. Хведара, Івана й Рамана.

Служба Божая суправаджаная прыгожым сьпевам царкоўнага хору, прайшла ў вельмі сьвяточным настроі. Пропаведзі Ўладыкаў Богдана й Васіля, гарачыя й узьнёслыя, ды царкоўны гімн «Магутны Божа» моцна ўсхвалявалі шматлікіх прысутных, напаўняючы сэрцы іх вялікай надзеяй на сьветлую будучыню.

### Супольны абед

Захоўваючы беларускую традыцыю гасьціннасьці, Царкоўная Рада прыходу БАПЦ у Нью Ёрку наладзіла ў «Манор Сэнтэр» супольны абед у чэсьць высокадастойнага гасьця Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіяпіскапа Богдана.

Падчас абеду Ўладыку Богдана віталі кіраўнікі беларускіх арганізацыяў. Айцец Хведар Данілюк, як удзельнік Слуцкага Паўстаньня, коратка падзяліўся сваімі перажываньнямі тады, у часе Паўстаньня, ды ўражаньнем сяньня, пасьля 35 год. Уладыка Богдан у сваёй прамове выказаў удзячнасьць за гасьціннае прыняцьце ды сказаў, між іншага, што свабода й незалежнасьць здабываюцца крывёй і верай.

### Акадэмія

У ўпрыгожанай беларускім і амэрыканскім сьцягамі залі, амэрыканскім гімнам распачалася ўрачыстая акадэмія. Адкрыў яе старшыня ньюёрскага аддзелу Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў сп. У. Курыла. Аднэй хвілінай цішы й адсьпяваньнем жалобнага маршу «Сьпеце ўсе тыя...» у выкананьні хору беларускіх вэтэранаў была аддадзена пашана Беларускім Героям.

Рэфэрат на тэму «Беларусь у вайне з Маскоўшчынай» прачытаў ген. Ф. Кушэль. Дакладчык асабліва затрымаўся над бітвай пад Воршай у 1508 г., дзе беларускае войска тады званае літоўскім, пад камандваньнем Вялікага Гэтмана К. Астроскага, разьбіла Маскалёў ды забрала ў палон тысячы жаўнераў і штаб зь іхным галоўным камандуючым. Пераходзячы да Слуцкага Паўстаньня, ён асабліва падкрэсьліў адпор беларускага народу супраць расейскага бальшавізму.

Пасьля рэфэрату распачалася мастацкая частка акадэміі, якая была добра падрыхтаваная, але крыху мо задоўгая. Асноўнай атракцыяй і навіной у Нью Ёрку — гэта быў хор Згуртаваньня Беларускіх Вэтэраноў пад кіраўніцтвам сп-ра А. Каптуровіча. Хор выканаў «Пагоню», «Падняты родны сьцяг дзяржавы», «Разьвівайся, сыры дубе», «Ой, у нядзелю параненьку» і «У гушчарах». На вялікую ўвагу заслугоўваюць выкананыя на фартап'яне сп-няй праф. З. Зубковіч «Прэлюдыя»» Міхайлоўскага й «Фінал» зь беларускай сюіты праф. А. Карповіча, а таксама свае ўласныя кампазыцыі. Дзьве песьні «Дарога» на словы Я. Коласа й «Мроі» на словы Н. Арсеньневай памастацку адсьпявала спячня Гая Дарашэвіч. Шмат воплескаў атрымалі за салёвыя й дуэтныя выступленьні Галіна Орса, Маркоўская й Г. Дарашэвіч, а яшчэ больш — сямігадовыя дэкляматаркі Войтэнка й А. Кажура.

Акадэмія закончылася беларускім нацыянальным гімнам у выкананьні хору вэтэранаў.

**К. Мароз**



Уладыка Васіль (пасярэдзіне адпраўляе паніхіду ў дзень гадавіны Слуцкага паўстаньня ў Нью Ёрку

## Штэтэнгофэн (Заходняя Нямеччына)

4-га сьнежня, у вадным прыватным памешканьні пасёлку Штэтэнгофэн сабралася досыць вялікая колькасьць Беларусаў. Прыйшлі й госьці — зыйшліся ўсе, каб ушанаваць памяць тых, «што паўсталі й пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына». Сяньня сабраліся ўсе, адкінуўшы ўсялякія непаразуменьні, што былі перад гэтым, каб супольна, як і калісь, ушанаваць гэты вялікі Дзень.

Сваімі сіламі немагчыма было наладзіць навет бедную акадэмію, аднак некаторыя зь мясцовых Беларусаў не маглі пагадзіцца з тым, што ў Штэтэнго~~фэне ня будзе належна адзначаны гэты~~ Дзень. Давялося зьвярнуцца да беларускае рэдакцыі радыя «Вызваленьне» з просьбай аб выкарыстаньне радыя-мантажу, спэцыяльна прысьвечанага дню Слуцкага Паўстаньня. Рэдакцыя дала сваю згоду. З чыста тэхнічных прычын прышлося адлажыць сьвяткаваньне на 4-га сьнежня. На гэты дзень быў дастаўлены зь Мюнхэну магнэтафон і істужка з мантажом.

Пасьля ўшанаваньня памяці палеглых ды адсьпяваньня нацыянальнага гімну, з апарату паплыла сумная «Восенская песьня» — «Падае лісьце, падае з клёнаў...» Пад яе акампаньямэнт пачаўся мастацка апрацаваны рэфэрат. «Тым, што паўсталі й пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына» — гучэлі словы. Прыемны барытон сьпікера прасякаў наскрозь душу кажнага прысутнага ў залі, ён даходзіў да сэрца сялян і работнікаў. закінутых нядоляй у чужы край. Сядзелі цяпер усе разам: паляшукі, вілянчукі, віцябляне, сыны Наваградчыны й Случчыны. Сярод прысутных быў удзельнік Слуцкага Паўстаньня, што прайшоў цярністы змагарны шлях.

~~Льецца жалобны марш:~~ «Сьпі пад курганам герояў...» Ізноў словы сьпікера: «Слава вам, Героі Случчыны! Слава за вашу бязьмежную ахвярнасьць!» Вочы загараліся сьлязьмі, кажны ў гэтую хвіліну перанёсься думкамі на Бацькаўшчыну — у «край магіл і курганоў...»

Рэфэрат закончыўся. У другую частку праграмы ўвайшлі народныя й рэлігійныя песьні з плітак Лювэнскага Ансамблю.

За ўладжанае сьвята ў Штэтэнгофэне асабліва трэба падзякаваць сп. сп. Цьвірку, Сычу й Запрудніку, якія безьінтэрэсоўна дапамаглі тэхнічнымі прыладамі, а таксама ўсёй Беларускай Сэкцыі радыё «Вызваленьне». Пажадана было-б, каб і іншыя асяродкі, дзе ёсьць Беларусы, а няма магчымасьці сваімі сіламі ладзіць акадэміі, наладжвалі іх гэткім спосабам.

**А. Нясутыцкі**

## Адэляіда (Аўстралія)

У нядзелю 27 лістапада тут урачыста адзначылі Дзень Героя.

Урачыстасьць распачалася Багаслужбай у Беларускай Праваслаўнай Царкве, падчас якой а. прат. М. Шчурко сказаў чулую пропаведзь. Глыбока крануў прысутных сваімі словамі і а. Міхаіл, які гаварыў аб муках Ісуса Хрыста ды навязаў гэта да цярпеньняў беларускіх патрыётаў. Пасьля сьв. Літургіі а. Міхаіл адправіў Паніхіду за душы палеглых Случчакоў і жаўнераў-Беларусаў. На Божай Службе прысутнічалі таксама, на чале із сп. А. Сітнікам, беларускія вэтэраны зь бел-чырвона-белым сьцягам.

Адразу пасьля заканчэньня малітваў у прыцаркоўнай залі адбылася ўрачыстая акадэмія, адкрытая сп. Інясам. У ганаровы прэзыдыюм акадэміі былі выбраныя сыны Случчыны сп. сп. Дзітман, Сыраевіч і Рамановіч. З дакладамі аб вызвольным збройным змаганьні Беларусаў выступілі сп. інж. П. Трысмакоў і сп. Ханеўскі.

Сп. В. Акавіты, падтрымоўваючы заклік Згуртаваньня Беларускіх Жанчын, запрапанаваў сабраць ахвяры на фонд дзіцячай ялінкі ў Нямеччыне. Было сабрана 13 аўстралійскіх фунтаў.

**Прысутны**

—o—

### САДБУРЫ (КАНАДА)

Як паведаміў Галоўную Ўправу Згуртаваньня Беларусаў Канады сакратарыят аддзелу ЗБК у Садбуры (Онтарыё), іхная праграма сьвяткаваньня Слуцкага Паўстаньня складалася з адслужанай у ўкраінскай царкве Паніхіды па слуцкіх Героях, злажэньня вянка на помніку загінутых у змаганьні ды кароткай акадэміі.

### БРЫЗБАН (АЎСТРАЛІЯ)

27 лістапада аддзел ЗБВ на Куінлянд ладзіў жалобную ўрачыстасьць, прысьвечаную памяці герояў Случчыны й жаўнераў БКА, што аддалі сваё жыцьцё за жыцьцё Рэспублікі.

У памешканьні З. Б. Вэтэранаў сабралася з гэтае нагоды ўся баларуская калёнія. Урачыстасьць адкрыў сп. Мікалай С-н. З дакладам аб змаганьні беларускага народу за сваю незалежнасьць выступіў сп. І. Я. Аддаўшы пашану беларускім Героям, прысутныя прыступілі да абгаварэньня бягучых грамадзкіх спраў, бо толькі працаю мы можам належна ўшанаваць сьв. памяць нашых Змагароў.

**Вэтэран**

—o—

### МОНТРЭАЛЬ (КАНАДА)

Беларусы Монтрэалю запрасілі на нядзелю 4 сьнежня сьвятара БАПЦ а. Міхаіла з Торонто адслужыць у іх сьв. Літургію й Паніхіду за слуцкіх Змагароў. Айцец Міхаіл зьяўляецца духовым апякуном беларускае парахвіі ў Монтрэалі.

## Крэзо (Францыя)

Цяжкі шлях змаганьня за правы жыць вольным чалавекам у сваёй вольнай дзяржаве выпаў на долю Беларуса. У гэтым змаганьні лёс нас раськідаў па ўсіх закутках сьвету. Пэўнай частцы Беларусаў давялося знайсьці прытулак у прыветнай Францыі ў хвабрычным месьце Крэзо. Але куды-б нас лёс ні закінуў, дзе-б мы ня жылі, мы — Беларусы і ў нас б'ецца беларускае сэрца.

У сумныя лістападовыя дні ў нашых думках паўстае месяц лістапад 1920 году. У нашых сэрцах мы спалучаемся із случчакамі, з тымі, што йшлі паміраць — і памерлі — каб жыла Бацькаўшчына.

З году ў год стараньнямі мясцовае сэкцыі Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў Францыі тут адзначаюцца й належна сьвяткуюцца ўгодкі слуцкага збройнага чыну. Сёлета якраз выпала, што 27 лістапада — дзень, у які Слуцкая Брыгада адкрыла вайну бальшавіцка-маскоўскай арміі выпаў у нядзелю. У гэты дзень і мы сабраліся ўсе ў залі мясцовага мэроўства на сьвяточную акадэмію. Сьвяткаваньне адкрыў старшыня сэкцыі сп. Булыга, вітаючы сваіх сяброў і гасьцёў Украінцаў. Пасьля адсьпяваньня «У гушчарах затканых імглою» сп. Нагорны прачытаў рэфэрат на тэму дня. Ад імя мясцовае сэкцыі Арганізацыі Украінскіх Работнікаў Францыі прамаўляў старшыня сп. Гаўрылец. У сваёй прамове ён зьвярнуў асаблівую ўвагу на сужыцьцё нашых народаў і падкрэсьліў карысьць, якую гэтае супрацоўніцтва нам прыносіць цяпер ды прынясе ў будучыні. Наступна перайшлі да сьціплае мастацкае часткі ,якая склалася з патрыятычных вершаў і песьняў. У праграме ўзялі ўдзел і нашыя малыя Беларусы, якія ўжо радзіліся ў Францыі ды якія, дзякуючы стараньням іхных бацькоў, не забываюцца роднае мовы і сваім удзелам упрыгожваюць нашыя нацыянальныя сьвяткаваньні. Нацыянальным гімнам была закончана сьвяточная акадэмія.

Гэтым Беларусы з Крэзо яшчэ адзін раз давялі, што ніякая варожая акцыя ці правакацыя розных «камітэтаў за паварот на бацькаўшчыну» ня можа на іх падзейнічаць. Яны заўсёды прыкладна выконваюць сваю місію быць належнымі рэпрэзэнтантамі свайго народу ў вольным сьвеце. Пры гэтым, яны такжа мараць аб павароце на Бацькаўшчыну ды шчыра вераць-у-тое, што паварот гэты не за гарамі.

**Прысутны**

---

Зацікавіліся Панас із Тарасам!

Прыстоялі, «дабрыдзень» сказалі і пытаюцца:

— Што гэта вы, людцэ добрыя робіце?

— А хіба ня бачыце? Сонца ў хату носім!

— Слухай, Панас! Гэта-ж надта добрая рэч мець сонца. ўхаце! Пойдзем паглядзімо, ці шмат ужо нанасілі гэтыя людзі сонца і ў якім месцы яны прычапілі яго, каб сьвяціла.

Увайшлі ў хату, «дабрыдзень» сказалі. Ім хтосьці адказаў, а хто — і ня бачаць: так цёмна ў хаце.

— Дзе-ж вашае сонца, — пытаюцца.

— А яшчэ не нанасілі, — кажа мазурка.

— А ці доўга-ж давядзецца насіць?

— А цэлы дзень, пакуль аж сьцямнее.

— Ну, а потым, што вы робіце?

— А потым спаць лажымся.

— Э-э-э!... Дык гэта накш робяць: у нас ня носяць, а ловяць сонца. І адзін раз як зловяць, дык тады ўжо ніколі яно з хаты ня ўцякае!

— Ну, пакажэце-ж, людцэ добрыя як гэта зрабіць? — просяць мазурэ.

— Ну, дык дайце сюды пілу і дзьве сякеры!

Прынесьлі мазурэ пілу і дзьве сякеры.

Панас із Тарасам зараз распрануліся, — гак!-гак!-гак! — прасеклі дзіру ў сьцяне, усадзілі ў гэтую дзіру пілу, — шарэг!-шарэг!-шарэг! — прарэзалі вакно і ўпусьцілі ў хату сонца. Потым якбач выразалі другое, трэйцяе вакно, — і ў хаце стала відна, як на дварэ.

Дзівяцца мазурэ, не надзякуюцца.

— Скуль вы, людзі добрыя? — пытаюцца.

—А якраз з таго месца, дзе неба зь зямлею сходзяцца!

Э!... Ды гэта-ж зусім блізкія суседзі, бо неба сходзіцца зь зямлёю вось за гэтай гарою.

Зараз хамянуліся частаваць добрых людзей, «блізкіх суседзяў». Прынесьлі гарэлкі, масла, сыру. Панас і Тарас п'юць, ядуць, пра іхнае жыцьцё распытваюць, аб сваім расказваюць. Конікі іхныя таксама адпачываюць, мазуровым аўсом частуюцца.

За чаркай ды за гутаркай не заўважылі, як і вечар надыйшоў.

Просяць мазурэ Панаса із Тарасам начаваць у іх.

Упадабаліся ім «суседзі блізкія», людзі добрыя. што сонца назаўсёды ў хату залучылі!

А Панас із Тарасам толькі і чакалі гэтага: цікавіла іх як у сям'і ў мазуроў.

### IX. ЯК МАЗУРЭ ПАРАЦЦА

Палеглі яны на лавах, — быццам сьпяць, а самі адным вокам сочаць, што робіцца ў мазуровай хаце.

Бачаць, — напаліла мазурыха печ, нагрэла саганоў зь пяць вады, выліла яе ў цэбар. Потым выграбла зь печы жар і кажа свайму гаспадару:

— Ну, лезь парыцца!

Ськівуў гаспадар зь сябе сарочку і палез у печ.

Па нейкім часе вылез мазур зь печы, апаласкаўся ў цэбры, адзеўся і палез на печ.

А мазурыха палезла ў печ.

Старэйшы сын прычыніў яе заслонкаю і сам пачаў разьдзявацца.

Падыйшоў да печы, кліча матку, а яна не адзываецца. Адчыніў засланку ды як закрычыць: «Ратуйце, людзі! матка скацэрсьцілася!»

Панас із Тарасам скочылі з лаваў, выцяглі за валасэ бабу зь печы. адлілі яе вадою ды і кажуць: «Ну, гэтак людзі ня парацца.»

— А як-жа? — пытаюцца мазурэ.

— Вось заўтра мы пакажам, а сяньня сьпеце ўжо.

Назаўтрае, ледзь золак, усталі Панас із Тарасам, збудзілі гаспадара, пайшлі ў старую хату, злажылі там каменку, прыладзілі палок. Нацэплілі лазьню, нанасілі бочку вады. нагрэлі яе камянямі, навязалі бярозавых венічкаў і давай самі парыцца.

Глядзяць мазурэ і дзівяцца. А потым самі давай гэтак рабіць. Упадабалася мазурам лазьня! Не надзякуюцца яны добрым людзям, «блізкім суседзям».

— Ну, Тарас, нашае падарожжа, як я бачу штораз усё цікавейшае, штораз, то ўсё лепш нам паводзіцца. Едзьма далей!

### X. ЯК МАЗУРЭ АЛАДКІ ЗЬ МЁДАМ ЕЛІ

Едуць, сабе едуць, міжсобку сьмяюцца, гутараць, Свае піпачкі — пык!-пык!-пык! — пакурваюць. Конікі трух!-трух!-трух! — патрухваюць.

Прыяжджаюць ізноў у вёску. А быў якраз сьвяточны дзень.

Бачаць, аж з аднэй хаты людзі ўсё бегаюць то ў сьвіран, то із сьвірану назад у хату: і ўсё — па чародзе, пачынаючы ад гаспаданра і канчаючы на самым наймалодшым. Сноўдаюцца сюды і туды, быццам мурашкі ў мурашніку.

Прыстоялі Панас з Тарасам, узіраюцца.

Бачаць, што кажны бяжыць у сьвіран і назад у хату з шылам у руцэ.

Зацікавіліся падарожныя.

— Што вы робіце, людцэ добрыя? — пытаюцца яны ў гаспадыні.

— А ці-ж ня ведаеце? Аладкі зь мёдам ямо!

— Ну, то чаго вы бегаеце, калі аладкі ясьцё? Сеў каля стала, — і еж сабе!

— А як-жа сядзець, калі аладкі ў хаце, а мёд у сьвірне?

— Ну, а дзеля чаго ў цябе шыла ў руцэ?

— А гэта мы на шыле мёд із сьвірну носім.

— Ну, гэта накш робіцца! Хочаце, — пакажам?

Добра, пакажэце! — згадзіліся мазурэ.

— Зараз Панас і Тарас прынесьлі із сьвірну ражанку зь мёдам, паставілі на стол, селі і паказваюць, як трэба аладкі зь мёдам есьці.

Нагледзіліся мазурэ і самі пачалі гэтак рабіць. Ядуць, хваляць, што смачна, і ня могуць надзівіцца, да чаго на сьвеце ёсьць людзі хітрыя.

Наеліся Панас і Тарас за сваю навуку аладак зь мёдам. Атрымалі ад мазуроў гору падзяк і паехалі далей.

(Далей будзе)

